# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1968
Лістапад-
Сьнежань

Год XVI
№ 6 (111)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVI** **November-December** **№ 6 (111)**
**1968**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVI | ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ | № 6 (111)

# КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ БІСКУПА ЧЭСЛАВА СІПОВІЧА

ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ!

Няпрыкметна, асабліва для людзей занятых і запрацаваных, праляцеў гэты год. А на чужыне нашыя рады няўзнак парадзелі: адыйшлі ад нас навекі некаторыя выдатныя адзінкі, патрыёты-змагары за лепшую долю Бацькаўшчыны. Яны пакінулі па сабе глыбокі сум і добрую памяць.

Неяк няёмка будзем уваходзіць у новы — (гэтак назвалі людзі) — прасьцяг часу. Перш аднак, чымся закончым стары год, адсьвяткуем вялікую хрысьціянскую памятную падзею — Каляды — Божае Нараджэньне. Будзем маліцца, адпачываць, віншаваць узаемна адны другіх.

Карыстаю і я з гэтае ўрачыстае нагоды і перасылаю найшчырэйшыя пажаданьні дарагім Братом і Сёстрам на Бацькаўшчыне і на чужыне!

У часе маей апошняй візытацыі беларускіх асяродкаў, рассыпаных па шырокім сьвеце, я меў вялікую прыемнасьць спаткацца са шматлікімі беларусамі, пагутарыць з імі і паматліцца. І я пераканаўся, што ня гледзячы на розьніцу кліматаў, поглядаў і моваў тых людзей, сярод якіх беларусам прышлося жыць, мы ўсё-ж становім адну грамаду, а грамада — як кажуць — вялікі чалавек! Ды усе занятыя, працуюць і ўсіх уцягвае ў сваю глыб вір жыцьцёвых клопатаў.

Аднак, хоць на хвілінку, пакіньма буднюю мітусьню! Пойдзем разам з пастушкамі і з мудрацамі Усходу ў Бэтлеем. О, колькі там дзіўных падзеяў! сьпевы анёлаў, супакой Сьвятой Сям'і, пасьпех пастухоў, паклоны і падаркі тых самых мудрацоў . . .

Ці тая ідылія пры нараджэньні Хрыста, апрача сваей старадаўняй прывабнасьці, мае для нас значэньне і ў сучасным атамным і міжплянэтным веку?

*

Хрысьціянства, як кожная магутная плынь, адначасова дзеіць у двух напрамках: дае сапраўдную сілу прыхільнікам і гуртуе яго працаўнікаў.



РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ
«БОЖЫМ ШЛЯХАМ»
віншуе
ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ
І СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ
з Вялікім Сьвятам
ХРЫСТОВАГА РАЖСТВА
і жадае
ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1969 ГОДУ!

Сяньня ў час сьмяротнага змаганьня паміж хрысьціянствам і матэр'ялізмам, неабходна адказаць на пытаньне, што ёсьць сутным для хрысьціянства? І на чым абаснована надзея, што рэлігія пераможа?

Падобнае пытаньне ставіў калісьці вучоны фарызэй Хрысту: «Вучыцель, якое найбольшае прыказаньне ў Законе?» (Мат. 22, 36).

Закон — слова шматзначнае. Пад ім разумелі кнігі прарока Майсея, сума правілаў, паводле якіх судзілі; але ў найшырэйшым значэньні Законам называлі цэласьць Божага аб'яўленьня Старога Запавету.

На працягу доўгае гісторыі жыдоўскага народу паўстала вусная, а пасьля і пісьменная традыцыя. Усе Божыя прыказаньні, традыцыйныя іх выясьненьні і асабліва рытуальныя прадпісаньні, маглі ведаць толькі вучоныя ў Законе. І гэтым яны вельмі ганарыліся!

Але дайшло да таго, што і самыя вучоныя заблыталіся ў тым, што ёсьць важным, а што было зусім непатрэбным і немагчымым. У часы Хрыста налічалі ня менш чым 613 розных «законаў», таму і ня дзіва, што фарызэй зьвярнуўся да Хрыста з пытаньнем: «. . . якое найбольшае прыказаньне?».

Хрыстос сказаў яму: — Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсею душою тваею, і ўсім разуменьнем тваім. Гэта ёсьць першае і найбольшае прыказаньне. Другое-ж — палюбі бліжняга твайго, як самога сябе. — (Мат. 22, 37—40).

Так Хрыстос паказаў, што было істотнае ў Старым Запавеце; а каб ня было ніякага сумніву, дабавіў: — На гэтых двух прыказаньнях грунтуецца ўвесь Закон і прарокі. —

Тут выявілася веліч і прастата адказу Хрыста, што зрабіла вялізарнае ўражаньне на прысутных. Аб гэтым чытаем у Сьв. Марка (12, 32—34): — І сказаў Яму кніжнік: добра, Вучыцель! Ты сказаў праўду, што адзін ёсьць Бог, і няма іншага апрача Яго: і любіць Яго ўсім сэрцам, усім розумам, і ўсею душою і ўсею сілаю і любіць бліжняга, як самога сябе, больш за ўсе жэртвы і ахвяры. Ісус-жа, бачучы, што той разумна адказвае, сказаў яму: недалёка ты валадарства Божага. —

*

Каб і мы сяньня не заблыталіся, асабліва ў розных сэнсацыях, што пачынаюць сыпацца на нас быццам з чарадзейскае бочкі, — праз газэты, радыё, тэлэбачаньне, праз рознае згаршэньне, праз ваяўнічую бязбожнасьць, — дык трэба — пры аказіі вялікага Сьвята запытацца ў самога сябе: што ў нашай рэлігіі ёсьць істотнае і ад чаго мы ніякім спосабам — хаця-бы й за цану жыцьця — ня можам адступіць?

Адказваем: ідэя дасканалага хрысьціяніна не знаходзіцца ані —

— у шматлікіх і доўгіх малітвах,
— у суровых пастах і пакутах,
— у духовых захопленьнях і сьлёзах,
— у пабожных арганізацыях,

— ані навет у самым прыняцьці сьвятарства ці манашства . . . — Але ідэал сапраўднага хрысьціяніна — л ю б о ў Бога і бліжняга!

*

А любоў бліжняга выходзіць далёка за межы любові сваякоў ці грамадзян свайго толькі народу; яна абыймае ўсіх людзей, а нават і ворагаў. (Мат. 5, 44). Вучань Хрыста павінен дараваць крыўды, іначай ня будуць яму дараваныя ўласныя правіны. (Мат. 18, 22).

Таксама Хрыстос вымагае, каб перш мы пагадзіліся са сваім братам, загневаным на нас, а тады ішлі да аўтара з ахвяраю. (Мат. 5, 23—25). І тут Хрыстос аддае першараднасьць вымогам этыкі перад актамі культу.

І ня іначай разумелі патрэбу любові Бога і бліжняга сапраўдныя пасьлядоўнікі Хрыста. Апостал Павал пісаў да Карынцянаў: — Любоў церпіць доўга, яна міласэрная; любоў не завідуе, ня вывышаецца, не надзімаецца, не буяніць, ня шукае свайго, ня думае благога, не радуецца з крыўды, але цешыцца з праўды . . . Любоў ніколі ня чэзьне (І Кар. 13, 4—8).

У адносінах Бога і людзей перш заіснавала любоў Бога. Сын Божы — «Божае Слова» — стаўся Чалавекам: прыйшоў на сьвет, каб збавіць грэшны сьвет ад грахоў і гэта ёсьць выразны праяў любові Бога да чалавека. Таксама прызначэньне чалавека да вечнага шчасьця дае нам магчымасьць зразумець, што Бог нас любіць.

Значыць, адзіны праўдзівы адказ на любоў Бога ёсьць л ю б і ц ь Бога! Цэлым сэрцам, усім нашым разуменьнем!

*

К а л я д ы ! Няхай-жа яны будуць сьвятой нагодай лепш пазнаць Хрыста, глыбей задумацца над ягонымі праўдамі.

Так як бэтлеемская зорка разадрала цемрадзь і паказала мудрацам шлях да сьціпла-

*Я. Савіцкі*

# III-яя вайна... і... канец сьвету

Манах Раман, ці як яго называюць, «айцец Раман», аніяк ня мог супакоіцца — ставіў наўкол пытаньні сам сабе і іншым людзям: «Чаму ў такім часе, калі і высокая навука і верхаводы Захаду і Ўсходу пагражаюць III-яй вайной, значыць, канцом сьвету, — дык наагул ані народы, ані дзяржавы і ані нават Цэрквы аб гэтым не клапоцяцца? — А людзі жывуць з дня на дзень, як-бы нічога і нідзе, ніколі і нікому не здаралася і аніхто не баіцца ! . .

А тымчасам Усход і Захад — Савецкі Саюз і Амэрыка — так зброяцца атамным аружжам —бомбамі і ракетамі — такой сілы, што хапіла-бы зьнішчыць усё жывое на нашай беднай зямлі, пабіць і патруціць усё чалавецтва — каго адразу, а каго павольнай мукай і без ніякага ратунку!

І людзі аб гэтым ведаюць, але цярпліва маўчаць, спадзяючыся, што ўсё ўложыцца с а м о с а б о й або што страшная небасьпека пройдзе м і м а . . .

Дык вось айцец Раман задумаў пагаманіць аб гэтым з ведамым рэдактарам газэты «Daily Bread».

## I. У РЭДАКЦЫІ

Спадар рэдактар аказаўся чалавекам даволі немаладым, відаць, добра вучоным, бо быў абложаны кніжкамі і часапісамі, газэтамі і паперамі . . . Выглядаў сухі, але не завяўшы; худы і вертлявы; высокі, але ня згорблены. Загаманіў тонам суровым, але ўкладным і ветлівым, абрываючы і пунктуючы свае і субяседніка думкі. Усё гэта пасавала ў ім і паказвала тыповага і клясычнага рэдактара.

Адразу і запытаўся: — Што маеце да мяне? Толькі прашу — каратка, бо я вельмі заняты!

а. Р а м а н : — Добра, буду скарочваць гаворку! — Я чытаю вашую газэту і цаню ў ёй асабліва тое, што вы адважна бароніце праўду і справядлівасьць у міжнародным жыцьці, напрыклад, няшчасную Біяфру.

— Аднак вось цяпер вы не зьвярнулі большай увагі на вельмі трудную справу сусьветнага значэньня . . .

Р э д а к т а р : — На якую спарву?

а. Р а м а н : — На канфлікт Ізраіля з арабамі.

Тут рэдактар зрабіў вялікія вочы — аж неспакойна закруціўся на крэсьле!

— Але што гэта вас можа абыходзіць? дзе Ізраіль, а дзе вы . . .

а. Р а м а н : — Аднак гэта мяне вельмі абыходзіць з розных прычын, бо нязгода Ізраіля з арабамі — гэта справа цэлага сьвету; а таксама яна ёсьць важная і пільная для мяне і для вас. А на старане арабаў стаіць Савецкі Саюз, які шыкуе Егіпет да нападу на Ізраіль. Значыць, тамашнім жыдам пагражае тое самае, што зрабіў Гітлер.

— Толькі-ж цяпер жыды ў Ізраілі ўжо не такія, як былі пад рукамі гітлероўцаў: цяпер у Палестыне жыды будуць біцца да апошняга чалавека! Значыць, пагражае вайна вельмі цьвёрдая, упартая і крывавая: там станецца новы Вьетнам, але горшы, бо можа выбухнуць атамная вайна . . .

Рэдактар задумаўся на хвілінку, паглядзеў на манаха і кажа:

— Але-ж вам няма чаго баяцца! Вам ужо — думаю — пад восемдзесят ? . . — Вы ўжо досыць пražылі і войнаў і рэвалюцыяў, а да таго яшчэ былі доўга ў Кітаі. (А я чытаў вашую кніжку «Кітай — Сібір — Масква». Гэта — выдатная кніжка!). То-то вам ужо не так і страшная будзе ячшэ адна вайна . . .

а. Р а м а н : — Ах, Спадар рэдактар! Вы глянулі на мяне і мой век ацанілі дакладна, але маіх пачуцьцяў вы ня ведаеце: я не належу да палахлівых. Але я баюся за ўвесь сьвет і найбольш за дзяцей і моладзь, за людзей нясьведамых і простых, якіх ніхто ня пытаецца. Высокая навука і найвышэйшыя кіраўнікі робяць самавольныя пастановы — якраз цяпер на згубу ўсяго чалавецтва . . .

Р э д а к т а р : — Стойце, стойце! Усё то — праўда, то-то так . . . Ды я не магу з вамі ўваходзіць у падрабязныя параспрэчкі: бачыце самі — я не маю ані часу, ані ахвоты!

---

га памешканьня Сьвятой Сям'і, так і нашае пабожнае сьвяткаваньне, малітвы і думкі аб хрысьціянскіх тайніцах няхай хутчэй давядуць нас да пазнаньня і любові Хрыста і Ягонае навукі!

Толькі гэта ратуе нас і ўвесь грэшны сьвет ад загубы.

*† Чэслаў Сіповіч,*
*Тыт. Біскуп Марыямітанскі,*
*Ап. Візытатар Беларусаў.*

Рым, Каляды, 1968

Але а. Раман увайшоў ужо ў азарт і ня лёгка было яго стрымаць: ён насіў у душы гарачае полымя. Яго думкі здаўна кружылі наўкол гэтае тэмы — аж сэрца лапатала ў грудзях і твар загараўся! Ён ужо парываўся ўстаць і захадзіць па пакоі і замахаць рукамі, як бывала з ім у хаце. — Дык і кажа рэдактару:

— Выбачце, але я не магу зразумець цяперашняга дзіўнага грамадзтва, якое — (гэта-ж інтэлігенцыя!) — кіруе думкай і лёсам народу; на самыя важныя падзеі ў сьвеце «ня мае часу!» — Хапае часу на друкаваньне абы якіх малаважных здарэньняў, нават плётак і на рэкляму ўсяго, што добра аплачваецца, хоць-бы і шкоднае для людзей і асабліва для моладзі . . .

Тут неспадзявана абодвы ўсталі і рэдактар перарваў гутарку манаха. Ён не зьвярнуў увагі на прытычкі і нэрвовыя сказы манаха, але паважна і, стрымліваючы сябе, сказаў:

— Слухайце, айцец! Я ўсё зразумеў, што вы хацелі сказаць і прызнаю, што вы парушылі пытаньні вельмі грозныя, над якімі трэба было-б добра падумаць. І я абавязкава пагавару аб усім з сваімі супрацоўнікамі. Але вам раджу зьвярнуцца да жыдоўскіх спэцыялістаў, найлепш можа да якога рабіна. Разумееце ? . .

Тут ўжо а. Раман зразумеў, што размова, хоць ня скончана, але перарвана, — дык падзякаваў за ласкавую ўвагу і разьвітаўся. Аднак з таго, што рэдактар адразу схапіўся за нейкія паперы і шыбка засеў да сваей работы, калі госьць не пасьпеў яшчэ выйсьці, дык манах астаўся з такой размовы незадаволены. А, выйшаўшы на вуліцу, завярнуў у памылковым напрамку, але зара зьмеркаваўся і знайшоў сваю дарогу.

Дый сяньня ўсё неяк злажылася на некарысьць — і пагода золкая, мокрая і халодная, словам, тыпова «ангельская», і весткі з цэлага сьвету цяжкія і прыкрыя, а нават тое, што выпаў Задушны Дзень, 2-га лістапада, ў які не ўдалося пайсьці, паводле звычаю, на магільнік, каб наведаць сваіх памёршых прыяцеляў!

Пасьля, ідучы дамоў, манах пытаўся сам сябе: «Ці варта было турбаваць працавітага рэдактара? Бо мусіць ён цалкам забудзецца аб справах такіх глыбокіх на карысьць плыткай і баламутнай драбязы . . .»

Аднак тое, што казаў рэдактар аб рабінах, а. Раман занатаваў сабе ў памяці і пасьля перадумаў: «А можа і варта было турбаваць рабіна ? . .»

## II. У ЛЁНДАНЕ (S. W.)

Да размовы з рабінам ня прыйшло так скора і лёгка, пакуль не здарылася спатканьне неспадзявана і выпадкова на вуліцы. Гэты рабін, Леві бэн Абрагам, быў а. Раману знаёмы, дык тут-жа на вуліцы згаварыліся і назначылі спатканьне.

Прыйшоўшы да рабіна, а. Раман убачыў у яго яшчэ другога гасьця: гэтым быў Салямон, купец. Ані рабіна жонка і аніхто з яго радні да размовы ня мешаліся, ані нат не ўваходзілі, апрача таго, што на хвілінку заглянула гаспадыня, прыносячы гарбату і сухарыкі.

Сам рабін аказаўся чалавекам спакойным і зраўнаважаным, наскорзь рэлігійным, але не заморaным тальмудыстам, а прынамсі гэтулькі гуманным, што з ім магчыма было гаманіць на ўсялякія тэмы, нават і на рэлігійныя.

А купец Салямон быў больш гарачы і чалавек чыста сьвецкага настрою; рэлігія была для яго справай традыцыйнай і патрэбнай для сужыцьця грамадзкага, патрыятычнага і тактычнага. Малодшы ад рабіна, але вычувалася між імі суседзкая прыязьнь і агульная адданасьць справам свайго народу, асабліва патрэбам цяперашнім, зьвязаным з канфліктам Ізраіля з арабамі.

Абодвы былі вельмі зацікаўлены, хоць стараліся гэтага не паказываць, з чым прыйшоў а. Раман, бо візыта была незвычайная.

а. Раман: — Можа будзеце зьдзіўлены, што я прыходжу да вас у справе Ізраіля.

Глянуўшы на гаспадара і на ягонага гасьця-прыяцеля, а. Раман вычытаў на іхніх тварах ня толькі зьдзіўленьне, але і нейкі праяў недаверу, а нават падазронасьць, што можа сказаць гэты духоўны «гой»? Аднак шчырасьць і адкрытасьць а. Рамана, якая выказвалася з ягоных слоў і з вачэй, скора пракантала абодвых субяседнікаў, што манах і сьвятар ня прыносіць з сабой ніякага подступу. Дык далейшая размова паплыла па таварыску, хоць часам выклікала ажыўленыя спрэчкі і хваляваньне.

Рабін: — О, так! нам нямала цікава, што хоча сказаць хрысьціянскі духоўны айцец аб Ізраілі? Ці то аб дзяржаве ў Палестыне, ці аб нашым народзе наагул . . .

а. Раман: — Уласна і толькі аб Ізраілю ў Палестыне: цэлы сьвет цяпер аб гэтай квэстыі гаворыць і непакоіцца.

— Найперш скажу агульна, што я змалку меў з жыдамі блізкае суседзтва, знаёмасьць, а нават таварыства і з некаторымі дружбу, як жыхар аднаго мястэчка ў Заходняй Беларусі. Гэты кантакт ажывіўся і аднавіўся ў супольным жыцьці, працы і ня-

долі ў лягерах Сібіру: лучыла нас нярэдка адна брыгада.

А вось тут, у Англіі, я спэцыяльна сьляджу палажэньне Ізраіля ў Палестыне, разгадваю будучыню і мне становіцца ясным, што лёс тамашніх жыдоў вельмі незайздросны: яны жывуць падобна, як тыя жыхары на схіле гары вулькану на востраве Стромболі, недалёка Сыцыліі. Вулькан належыць да катэгорыі дзеючых: выкідае іскры і попел і пагражае людзям. Я праязджаў параплавам у 1936 — днём — і бачыў, як багата дыміць; а ў 1939 — ноччу — і дзівіўся, як высыпае іскры, дыхаючы, што 5 мінут; а кожныя 20 хвілін ўздыхае вельмі глыбока і цяжка, выкідаючы вялізны сноп іскраў, якія ападаюць наўкол.

— Мы стаялі ў групе на памосьце параплаву і спрачаліся, як людзі могуць там пражываць — так блізка адчынянай пашчы вулькану? Бачыў я хаткі, праяжджаючы міма востраву днём. Мы тады пільна прыглядаліся праз біноклі і налічылі да 10-ці дамкоў і гародчыкаў . . .

— З гэтага я выводжу, што палажэньне Ізраіля амаль падобнае; але іх — толькі да трох мільёнаў народу ! . . а ў навакольлі — каля 100 мільёнаў заўзятых арабаў, якія . . .

Купец: — . . . ну, мы ўжо тройчы пабілі арабаў, дык яны не асьмеляцца выступіць: толькі усьцяж шкодзяць і не даюць нашым людзям працаваць. Але мы вайны ня хочам: мы выклікаем іх на мір, але яны аніяк не даюцца . . . Што-ж нам рабіць?

Рабін: — Так, мы вайны ня хочам: нашто нам вайна? Мы на ўсім сьвеце стаім за мір.

Купец: — Так-так! Без супакою нельга ні працаваць, ні гандляваць: псуецца ўся эканоміка ў нас і ў іх таксама, які-ж гэта гандаль. і наагул якое жыцьцё ? . .

а. Раман: — Якраз справа датычыць жыцьця! Калі-б вашыя бравурныя суродзічы яшчэ і дзесяць разоў пабілі арабаў, дык гэта ня значыць, што наступіць канец варожасьці: іскры ненавісьці бязупынна будуць сыпацца на галаву.

Купец: — Але вы, айцец Раман, скажыце шчыра, каму вы прызналі-б слушнасьць — нам ці арабам? — Ну, бо мы маем на Палестыну права ад вякоў: Сам Бог нам яе празначыў. Ад нас яе захапілі сілай, а мы шчасьліва адваявалі вялізнымі ахвярамі і гарачай крывёю: значыць, мы вярнуліся да свайго дому.

Рабін: — Праўда, Сам Бог нам гэты край празначыў!

а. Раман: — Гэтае пытаньне вельмі труднае і я не бяруся яго расстрыгаць. Калі-б так пасьлядоўна разважаць, дык скарэй трэба было-б усіх амэрыканцаў прызнаць захопнікамі, а гаспадарамі краю — тыя астаткі індыянаў, якія цяпер юрыдычна — (іх інтэлігентныя верхаводы) — дамагаюцца сваей «уласнасьці» ад Злучаных Штатаў і ад Канады. Пасылаюць пратэсты і дамаганьні: «Плаціце прынамсі нам падатак за нашую зямлю!»

— Падобна магчыма было-б выганяць англічанаў з Брытаніі на карысьць Валіі, бо англа-саксы захапілі гэты край блізка ў тым самым часе, як арабы вашую Палестыну.

— Аднак усе белыя ў Амэрыцы, якія заўладалі ею чатыры стагодзьдзі таму і тыя чорныя, якіх белыя сілай навезьлі з Афрыкі, цяпер лічацца юрыдычнымі ўласьнікамі, бо сіла — праз вялікую даўнасьць — стала ўжо ў практыцы правам і ніхто гэтаму не пярэчыць; бо ў адваротным выпадку трэба было-б пераганяць цэлы сьвет з месца на месца — дзеля таго, што сто ці тысяча гадоў назад усе мелі калісьці іншае сваё логава . . .

Купец: — Сапраўды, вы цікава гамоніце, — толькі-ж на нашую некарысьць! А ці ня маеце чаго сказаць для нашай абароны?

а. Раман: — О, маю! бо цяпер, хоць Ізраіль зусім нядаўна захапіў свае даўнейшыя землі і ўтварыў новую дзяржаву, то ўжо гэта сталася дакананым фактам і прызнаным юрыдычна, дык арабы мусяць неяк дагаварыцца з жыдамі і пагадзіцца з лёсам.

— Аднак на помач арабам выступіў Савецкі Саюз і Ізраіль аніяк ня зможа абараніць сваё цяперашнее права на ўласнасьць. —

— Дык вось прашу заўважыць, што на публічную арэну сьвету выступаюць дзьве непрапарцыянальныя сілы: 3 мільёны жыдоў супраць 100 мільёнаў арабаў і 200 з лішнім мільёнаў Савецкага Саюзу, значыць «1» проціў «100» — адзін насупраць сотні! Якая перавага людзей і перавага зброі.

Рабін: — Так, палажэньне Ізраіля цалкам падобнае, як было калісьці ў пару вайны з філістынамі: з боку гэтых выступіў вялікан у цяжкой зброі, з кап'ём і мячом; а насупраць — юнак Давід з прашчай і пяцьцю каменчыкамі; але Давід — пры Божай ласцы — зваліў Галіята і ягоным мачом адсек яму галаву!

Купец: — А ці-ж не падобная нашая акцыя ў прошлым годзе супраць усіх арабаў? Ну, аднак мы ў некалька дзён пабілі егіпцян, іорданцаў і сырыйцаў; забралі іхняе аружжа, ачысьцілі Еразоліму і дайшлі да Суэскага каналу, да ракі Ёрдану і адкінулі сырый-

цаў ад найважнейшай стратэгічнай гары? — Дык што на гэта можна сказаць?

Рабін: — Так. — А ці вы не ўважаеце, што стаўся ў Ізраілі вялізарны Божы цуд? Ня толькі тое, што мы прагналі ворагаў, што злучылі Еразоліму і нашыя землі; але Бог даў нам дачакаць і споўніць злучэньне народнага ізраільскага духу, што ажывілася вера ў Бога і што шчыра моляцца такія, якія дзесяткі гадоў ня прызнавалі Бога?

а. Раман: — Усё гэта мяне і цешыць і страшыць. Быў я даўжэй у Ізраілю: бачыў і падзіўляў поступ у злучэньні народу. Ўжо хаця-бы тое, што сабраліся маладыя людзі з усяго сьвету, якія гаварылі на 70 мовах розных народаў. І гэтыя разрозьненыя людзі, з розных культураў і абычаяў дый з розных кліматаў сьвету, патрапілі адшукаць сваю старую мову, мадэрнізаваць яе, высока ўзьняць культуру земляробства, якім здаўна не займаліся, навучыцца самай труднай ваеннай муштроўкі, да якой нідзе іх не дапускалі; прытым патрапілі зарганізаваць усю адміністрацыю ў дзяржаве цалкам новай і на тэрыторыі, якую трэба было-б назваць геамэтрычнай карыкатурай. — А да ўсяго яшчэ акружаныя бліжэйшымі і далейшымі суседзямі, настроенымі ненавісьцю... Дык усё гэта — і нова-пабудаваныя школы, і цудоўная гаспадарка у кібуцах (фармах), і вымуштраваная энэргічная армія новага стылю і ўся культура маладой дзяржавы, — усё гэта — кажу — мяне і цешыць і трывожыць!..

Купец: — Гаварыце ясна: што вы хочаце гэтым сказаць?

а. Раман: — Вельмі добра і разумна, што вы так глыбока верыце ў Божую помач, як кажацца ў Эвангельлі, што «вера горы пераносіць». Але трэба ўважаць і на свае сілы: паміма такой бліскучай перамогі ў апошняй вайне, паміма найлепшай арганізацыі і гарачага патрыятызму, а нават пры вытрывалай працы і пры ахвярнасьці ўсяго народу, — трэба зважаць, ці вытрымаюць нацягнутыя нэрвы. Як доўга няпэўны стан трывае, дык родзіцца зморанасьць і адрантвеласьць, а гэта пераходзіць у нецярплівасьць і нарэшце ў злосьць і заўзятасьць, тады пойдуць неразважныя гутаркі і памылковая дзейнасьць...

— А тагды ўжо чакае страшны лёс, жахлівая і жудасная доля — такая, якую перанёс ваш народ ад Гітлера. І ясна, што малады, здольны і энэргічны ізраільскі народ не паддасца ў найбольшай небасьпецы: значыць, можа быць вынішчаны да астатку!..

Купец: — Але-ж гэтага ня можа быць! І аніколі ня можа быць!..

Рабін маўчаў, хоць меркаваў нешта сказаць, аднак чамусьці нерашуча паўстрымаўся.

а. Раман: — Мне здаецца, што трэба сказаць: «Гэта не павінна быць», аднак гэта «можа быць». Бо трэба ўважаць на прапорцыю і сілы і магчымасьці.

Рабін: — Так, гэта праўда! Але трэба яшчэ больш уважаць на помач з неба: прыклады з Бібліі (як мы ўжо казалі) паказваюць Давіда ў змаганьні з Голіятам і Юду Махабэя з пераважнымі войскамі сырыйцаў. Дзеля таго мы ўва ўсіх сынагогах канчаем нашыя малітвы аб Божае багаславенства. І апошняя вайна была проста цудоўная: пачалася пасьля суботы і скончылася да другой суботы; а нашае войска горача малілася перад вайной і дзякавала Богу пасьля пераможнай вайны. — Ці-ж гэта ня прыгожая новая гісторыя, зусім падобная да вайнаў Давіда?! —

а. Раман: — І я кажу, што вельмі падобная! Але кожная справа мае і павінна мець дзьве рэчы на ўвазе: Божую помач і людзкія дзеяньні. І сам Юда Махабэй не рабіў ні аднаго кроку без малітвы; але ўсё-ж перад бітвамі загадваў жаўнерам, уздыхаючы да неба, добра навастрыць свае мячы!

*

а. Раман: — Выбачце мне! Але я тут мушу улучыць іншую тэму, далёка важнейшую, чым ваш канфлікт з арабамі і гэта ляжыць у маей душы надта глыбока, менавіта: ізраільскі канфлікт можа выклікаць закалот сусьветны і вайну атамную!

— Хоць цяпер якраз Чэха-Славацыя пакрыўджана нападам савецкага войска і хоць вядзецца заўзятая вайна між Нігерыяй і Біяфрай у Афрыцы, дзе нігерыйцы-магамэтане вынішчаюць хрысьціян у Біяфры, а дзяцей морацць голадам, — то аднак тыя хвалявыньні не пагражаюць агульнай вайной, як у Палестыне.

Купец: — Ну, а чаму вы так думаеце?

а. Раман: — Таму, што Нассэр, прэзыдэнт Егіпту, не таіць сваіх плянаў — вынішчыць жыдоў да астатку! — Калі-ж такі працэс пачнецца, то жыды падыймуць алярм на цэлы сьвет. — Але цяпер ужо ня той час, калі сьвет быў пад гіпнозам Гітлера, дык цяпер ўвесь сьвет будзе рэагаваць, што выкліча новую вайну — другі Вьетнам. — Гэтак, не плянуючы, пачнецца III-яя Вялікая вайна і ўсей магутнасьцяй сутыкнецца Усход з Захадам, а ў гэтым набалеўшым канфлікце можа зусім неспадзявана выбухнуць вайна атамная!

Купец: — Не абавязкова: можа мы яшчэ дагаворымся з арабамі?..

а. Раман: — Дай, Божа! — Аднак зважце на тое, што ад 1945 году паступова атамныя бомбы награмаджваюцца, узмацняюцца і множацца, з дадаткам бомбаў з заразнымі бактэрыямі і з прыдаткам магутных ракетаў, што будуць атамную і іншыя заразы пераносіць тысячы кілямэтраў!..

— А мы толькі частку ведаем з тых сакрэтаў, якія шпіёны перадаюць з Захаду на Усход, ці наадварот. — Так увесь наш няшчасны сьвет аказаўся загрожаны ў спосаб, якога дасюль гісторыя ня ведала. — Аж гаворыцца ўжо цалкам яўна аб канцы сьвету!

Рабін: — Божа, сьцеражы!

а. Раман: — І няхай толькі выбухне хоць адна такая бомба, навет справакаваная, — як зара ў адплату і помсту пасыпяцца бомбы з такім імпэтам, каб праціўнік не пасьпеў апомніцца! — Каб зламаць ягоную падрыхтоўку і цалкам яго зьнішчыць...

Купец: — Пачакайце, айцец! Сапраўды, чаму вы малюеце гэты абраз такімі згушчанымі фарбамі, ці можа, каб нас настрашыць?

а. Раман: — Выбачце! Але звычайна, хто другіх страшыць, той сам не баіцца; а тут якраз я сам баюся хіба найбольш. — Дый я зусім не страшу, але асьцерагаю, бо справа зусім так выглядае, як я яе прадстаўляю. Я ўжо здаўна яе разважаю і студыюю. А заплюшчваць вочы — гэта вельмі неразумна, бо мы ня можам быць падобныя да той бабулькі, што баялася сьмерці і казала: «Як будзе да мяне падыходзіць, дык зачыню сабе вочы!» — Але якраз і не пасьпела зачыніць, а так і памерла з адчыненымі вачамі! —

— І надарэмна нам здаецца, што праціўнікі плянуюць вайну і абарону! Бо гэта будзе вайна — не вайна!.. Ня будзе ў ёй ні войска, ні генэралаў, ні гарматаў, ні куляў. — Але выбухне раптоўная трывога і палятуць варожыя ракеты на галоўныя гарады праціўніка. У такім праклятым нападзе могуць пагінуць самыя важныя правадыры ў дзяржавах, — тады ня будзе каму даваць загады і камандаваць абаронай...

— Дзеля таго, што атамныя арсэналы разьмешчаны па розных таёмных пунктах Усходу і Захаду, дык ні адна старана, ні другая не пасьпее цалкам абяззброіць ворага і паўстане неймаверны хаос на абодвух бакох. І ўсялякія абвесткі і камунікацыя будуць зблытаныя або спаралізаваныя — так што паніка ахопіць увесь сьвет — і дзеючыя краі, а таксама і нэўтральныя — аж да найдалейшых закуткаў на кантынэнтах і на акіянах. —

— А дзеля таго, што зброя дайшла да нябывалай сілы і колькасьці, дык сьмерць агорне дзесяткі і сотні мільёнаў народу і тыя, што адразу згінуць, будуць, можна сказаць, шчасьлівейшыя. Бо іншыя загінуць ад страшэнных цярпеньняў, калі ўся адзежа на людзях раптам пачне тлець, а таксама і скура на целе. Усе людзі далейшыя ад галоўных пунктаў будуць у розных ступенях затрутыя атамным ядам, дык ім прыдзецца цярпець дні, тыдні або і месяцы, пакуль памруць паміж непахаванымі суродзічамі!

Рабін: — О, не! Госпад Бог не дапусьціць, каб такі абраз спраўдзіўся, як вы яго нарысавалі. Бог ёсьць бесканечна добры і міласэрны: ведае нашыя слабасьці і грахі. Але Ён нас усіх стварыў і мы — Яго дзеці, — дык ці-ж на тое нас вывеў з нічога, каб мы гэтак марна пагінулі? Як вам здаецца?

Купец: — І я таксама думаю: ніякі чалавек, які будуе вялікі дом, не папусьціць, каб яго хто іншы — злачынец — зьнішчыў! Ну, а як-жа Бог, самы найразумнейшы калькулятар, ці-ж мог-бы дапусьціць, каб шалёныя людзі зьнішчылі ягонае дзела? — Я так думаю, а вы як?..

а. Раман: — Каб на гэтыя пытаньні адказаць, дык трэба было-б яшчэ больш часу, як мы мелі цяпер: значыць, мы мусім перарваць дыскусію. І падзякаваць гаспадару за ласкавую ўвагу!

Рабін: — Думаю, што было-б вельмі цікава і карысна зрабіць нам яшчэ адну сэсію і нараду — аб Ізраілю і аб усім на сьвеце, хоць і страшна нам было слухаць трагічныя прагнозы а. Рамана. — Дык прашу выбраць час і месца...

Купец: — Але месца ўжо выбрана!

а. Раман і рабін: — Як то «выбрана»? Значыць, дзе-ж яно?

Купец: — Ведама, што ў мяне! Прашу!

Так адразу і згаварыліся, адкладаючы сабраньне на наступную нядзелю вечарам.

## III. У ЛЁНДАНЕ (S. E.)

Манах Раман астаўся больш здаволены апошняй размовай, чым першай у рэдактара, і нават усміхаўся сабе прыязна, што напужаў субяседнікаў. Але зара пераходзіў на паважны тон сваіх думак: — Праўду сказаць, то я больш спужаўся ад іх. І сабе думкі не прылажу, чаму людзкі агул не бярэ да сэрца такіх трагічных падзеяў сьвету? А ўжо што і гаманіць аб народзе лёгкамысным, абыякавым ці закаранелым у благіх прывычках або

ў злачынстве? — Яны зусім як шэрыя гусі: разьнік вострыць нож тут-жа пры іх, а яны спакойна скубуць побач траву. Таксама і авечкі . . . — Дык і слушна называюць такіх людзей «дурнымі авечкамі».

І цяпер, ідучы на сабраньне, а. Раман зноў передумваў тыя самыя думкі і параўнаньні, толькі-ж настрой яго быў лепшы і разьвейшы. Як ня дзіўна, а вельмі ўзьдзейвае на нас стан пагоды: якраз, пасьля трох тыдняў мокрых, калі сонца загінула за цьмянымі хмарамі, дык падобна згубілася ў людзей усялякая вясёласьць: хадзілі насупленыя, як-бы не здаволеныя, што жывуць на Божым сьвеце. — Але нарэшце мелі мы два дні цалкам адменныя: васенняе сонца панавала ад усходу да захаду, ветру — ні на лякарства, а толькі лёганькі халадок, і ўся прырода, здаецца, гатова была пачаць вясну! Аднак сонца было сумна-вясёлае і ня мела веснавой яркасьці, але мэлянхалійную задумёнасьць.

У душы а. Рамана ў глыбокай задуме тлілася надзея, як іскра, зацягнутая попелам, але яшчэ жывая і гатовая ўспалыхнуць полымем, калі-б хто падлажыў сухога, палкага матар'ялу.

*

Рабін ужо быў у купца і адразу пачаў зачэпную размову:

— Пазвольце мне — казаў ён — вярнуцца да справы Ізраіля! Арабы толькі праігрываюць у спрэчках з намі: мы-бы ім памаглі ўладзіць эканомію, гаспадарку, асабліва ў земляробстве — на падабенства нашых кібуцаў, у асваеньні і культуры ў пустынях. А так што? — толькі ўзаемны суседзкі закалот, з якога карыстае Савецкі Саюз — гатовы закабаліць усе арабскія рэспублікі і наагул усю Афрыку, бо пачаў ужо пранікаць у Сяродземнае мора, у Егіпет, Альгерыю і інш. А з гэтым лучыцца небасьпека поўнага атэізму: дасюль усё-ж арабы вераць у аднаго Бога, а што будзе далей? Ці не так думаеце вы?

К у п е ц : — Пэўна, што Саветы ўнясуць больш шкоды, як карысьці: праўда, іх тэхніка стаіць высока, але іхнія экспэрты — нясуць з сабой палітычную прапаганду, вядуць падступны шпіянаж і клясавы закалот, апрача абрыдлівага атэізму. А эканамічна ў чым яны могуць памагчы, калі самі ня умеюць у сябе ўладзіць трывалага дабрабыту? Толькі мілітарна ўзмацняюць арабаў супраць нас і пад'юджваюць іх да нападаў на Ізраіль і да вайны. — Ну, але мы не дадзёмся! паб'ём і чацьвёрты і пяты раз . . .

а. Р а м а н : — Мне надта цяжка гаварыць аб Ізраілю: бачу небасьпеку і проста не прадбачу ратунку! — Вы акружаны ворагамі, а сама дзяржава Ізраіль мае дзівосную канфігурацыю карыкатуры. Хто гэта быў такі мудры, каб яе так выкраіць? — Цяпер, праўда, пры акупацыі земляў Ярданіі і Сынайскага паўвострова — аж да Суэзкага каналу вы дайшлі да валадарства цара Салямона.

— Я двойчы праяжджаў Суэзкі канал (1936 і 1939) і добра разумею яго значэньне; але цяпер ён заткнёны вашай вайной з арабамі, што прычыняе вялізныя эканамічныя труднасьці шматлікім краям, асабліва заходняй Эўропе.

— Аднак вы ўсёроўна мусіце адыйсьці на свае граніцы, якія не даюць аніякай магчымасьці спакойнага і незалежнага жыцьця. — Дык скажыце, якая сіла прымусіць арабаў, каб далі вам поўную гарантыю міру ў вашых граніцах? І хто можа паручыцца за вас з паміж дзяржаваў цэлага сьвету?

— А цяпер, каб падтрымаць Ізраіль яўна, дык трэба ўвайсьці ў канфлікт з Савецкім Саюзам. А сам Саюз проста правакуе і арабаў і ўвесь Вольны Сьвет.

Р а б і н : — Што вы пад гэтым разумееце, калі кажаце, што «правакуе»?

а. Р а м а н : — Як у Беларусі гаворац: «Голы разбою не баіцца», бо ня мае чаго траціць. Так і Савецкі Саюз: пры ўсіх натугах і самахвальстве, што «перагоніць Амэрыку» і пры катаржнай працы ўсяго народу — вось ужо паўвеку прайшло і ня можа эканамічна прыблізіцца да яе. А ў сусьветнай палітыцы Саюз траціць даўнейшы ўплыў на камуністаў цэлага сьвету. Але мілітарна стаіць высока і пагражае ўсяму Захаду, асабліва верыць у моц сваей атамнай зброі.

— У апошнім часе савецкі ўрад пайшоў на страшэнную рызыку: зусім мала зважае на сваіх праціўнікаў і ня цэніць нават найбліжэйшых прыяцеляў, а таксама не зважае на сваіх грамадзян. Апіраецца толькі на сваей ваеннай с і л е і спадзяецца, што можа лёгка абыйсьціся без усяго сьвету.

— Зусім падобная была сытуацыя, калі Гітлер у 1939 пастанавіў заўладаць найперш Эўропай, а пасьля і ўсім сьветам, як гэта відаць з таемных дакумантаў, якія трапілі ў рукі пераможцаў.

— Яшчэ Сталін, хоць ламаў усе перашкоды, правакаваў і ашукваў, аднак усё-ж ён быў хітры палітык і свае махінацыі праводзіў дыпляматычна. А Хрушчоў маніў і зводзіў, абяцаў і не датрымліваў і наагул хуліганіў вонках і ў Саюзе, аднак і ён вёў хітрую палітыку і свае махінацыі праводзіў дасьціпна і спрытна.

— А цяпер савецкія верхаводы перш трымаліся асьцярожнай апартуністычнай лініі — маўчалі, адкладалі свае пастановы і вылоўлівалі найбольш выгодны час і абставіны, каб зрабіць зручны крок, не зважаючы ні на праўду, ці справядлівасьць, ні на сваё слова ці прырачэньне і ні на людзкую прыстойнасьць. Але гэта ўсё ім нарэшце надакучыла дык перайшлі на рацыю с і л ы . — Аб гэтым сьветчыць іхны акт насільля і гвалту над Чэха-Славацыяй і далейшыя махінацыі ў Сяродземным моры, і тое, што пагражаюць Ізраілю і што мацней вяжуцца з Егіптам і з Альгерыяй.

К у п е ц : — Так, гэта вельмі паскудная палітыка! З такім кампаньёнам не правядзеш ні гандлёвага і ні якога іншага інтарэсу: яны толькі эксплёатуюць, нічога не даючы карыснага другой старане, хоць абяцаюць вельмі шмат. З імі вядзецца гандаль, як з дзікімі народамі — замена — тавар на тавар, а не на грошы, ні на вэксаль.

а. Р а м а н : — Так у нашай размове мы зноў даходзім да сусьветнай атамнай вайны.

Р а б і н : — Ну, што-ж? гаварыце! Толькі-ж мы маем надта важныя пытаньні і труднасьці, але пачакаем, пакуль вы скончыце свае выясьненьні . . .

*

а. Р а м а н : — З усяго выходзіць, што гэтая вайна выбухне цалкам неспадзявана і не абдумана, а можа нават выпадкова. І тут магчымасьці могуць быць дзьве:

1) Або з якогасьці выпадку, можа справакаванага, Захад і Усход, баючыся, каб не астацца ззаду, з вялікім імпэтам нападнуць узаемна і а д н а ч а с о в а адзін на другога, каб праціўніка зьнішчыць перш, чым ён апамятаецца . . .

2) Або Савецкі Саюз справакуе і супакоіць Амэрыку нейкім падступным спосабам ці дагаворам, а тады раптам нападзе сам першы і даканае сапраўднай руіны Паўночнай Амэрыкі, ацалеўшы сам . . .

К у п е ц : — О, не! гэта немагчыма. Бо Амэрыка так пільнуе Саюз, што не дапусьціць наглай правакацыі. — Ну, але я так думаю, што якраз так і будзе, як я кажу. — Што-ж, можа ня так?

а. Р а м а н : — Пачакайце! Разважым мой першы выпадак.

— Пры ўзаемным атакаваньні Савецкі Саюз і Амэрыка будуць старацца паслаць як найбольшую сілу атамнай зброі на праціўніка, каб аслабіць яго канчаткова: гэта выкліча неймаверны ўстрос усяе нашае плянэты і агульны пажар Расеі і Амэрыкі. Да гэтага прылучыцца страшэнная бура — сьмерць на ўсім абшары зямлі, паўсюдныя грымоты і пяруны, якіх не знала дасюль чалавецтва, магчымае ажыўленьне землетрасеньня і выбуху шматлікіх вульканаў. Хто ведае, ці ня прычыніцца рух паветра і цяпла да растапленьня адвечных лядоў на кантынэнце Антарктыды, дзе іх набралася і намерзла цэлыя горы, вышынёю да 3-х кілямэтраў ! ? Такое страсеньне абыйме ўсю зямлю, не абмінаючы Паўдзённай Амэрыкі і Аўстраліі. —

— Адразу згінуць дзесяткі і соткі мільёнаў людзей, а іншыя будуць нязьмерна мучыцца, атручаныя і тлеючыя ў вагні да канца. —

— Ясна, што гэта будзе канец чалавечага роду і наагул канец сьвету! Уся нашая цудоўная плянэта стане сусьветным магільнікам і пажарышчам. Толькі-ж трупаў ня будзе каму хаваць — трупаў людзкіх, зьвярыных і нават у значнай меры марскіх . . . — Лясы аўтаматычна загарацца па ўсей Паўночнай Амэрыцы і Эўропе і ў большай частцы Азіі. Гарады будуць гарэць бяз ніякага ратунку. У найдалейшых закутках зямлі жыцьцё паволі загіне і зямля апусьцее на доўгія вякі. Неба абвалачэцца хмарамі на працяг гадоў . . . —

*

Якраз тут гаспадыня ўнесла гарбату. Пачалі піць, нічога не гаворачы, бо кожнаму хапала сваіх думак.

Заселі на далейшыя разважаньні таксама моўчкі. Манах гаварыў у далейшым працягу:

— Цяпер разважым другі спосаб III-яй вайны: у гэтым выпадку Савецкі Саюз нападзе неспадзявана і так раптоўна, што не дасьць Амэрыцы апомніцца — зьнішчыць яе і затрыумфуе! — Я прадбачу гэта так: Паўночная Амэрыка ўлучна з Канадай будуць зьнішчаныя дашчэнту! Савецкі Саюз у вялікім разгоне, баючыся рэванжу, пашле туды ракетамі самыя моцныя атамныя бомбы ў найбольшай колькасьці, дык вынік будзе бяссумніўны, скорасны і паўсюдны. — Але гэта ня пройдзе бязшкодна для ўсяго сьвету; атручанае паветра, узрушанае раптоўнымі вятрамі і бурамі, разнясецца па ўсей плянэце, дык людзі будуць выміраць, як даўней падчас чумы, тысячамі — аж замучыцца цэны сьвет!

— Пачнуць замыкацца школы і фабрыкі, а ў Савецкім Саюзе аўтаматычна распаўзуцца калгасы і ніякая сіла ня зможа апанаваць анархіі. —

— Ужо цяпер гавораць і пішуць, што атамная вайна прычыніць канец культуры. Няма ніякага сумніву, што так і станецца. — Найперш Савецкі Саюз накінецца на сьвет, каб стварыць паўсюдную дыктатуру, пагражаючы далейшымі атамнымі бомбамі. Але гэты раптоўны трыумф стлее сам сабой, бо разьнітуюцца ўсе швы і ніты людзкога грамадзтва. Наступіць у Саветах самая вострая тыранія, якая аднак закончыцца забойствам найвышэйшых урадоўцаў.

Таксама штосьці падобнае настане па ўсім сьвеце: пачнецца агульная рэвалюцыя і забойства ўрадоўцаў і зьверхнікаў, адчыняцца ўсе турмы і лягеры і запануе сусьветны хаос. Замоўкне і радыё, і тэлевізія і кіно: абарвецца рух пачтовы і сухапутны, і марскі і паветраны.

— Перастануць выходзіць газэты, а толькі будуць наклееныя на сьцянах загады, якіх ніхто выконваць ня будзе.

— Аднак найбольшае гора прычыніць нязьмерны рабунак прадуктаў харчаваньня, з чаго вынікнуць забойствы і інш. злачынствы — без ніякіх судоў і караў бо ўсялякі кантроль і справядлівасьць загасьне, — словам, — наступіць канец культуры і сусьветнае зьдзічэньне між тымі людзьмі, якія перажывуць атамную катастрофу. А хто ня згіне ад атамнай атруты, той пападзе пад люты голад і інш. хваробы, бо ні лякарстваў, ні дактароў ня стане!

— З усяго бачым, што вынік атамнай узаемнай вайны і разгром Усходу і Захаду быў-бы бадай меншым мучэньнем чалавецтва, чым перамога аднае стараны.

Рабін: — Ах, Божа, сьцеражы нас ад усяго гэтага!

Купец: — Ну, і ўгасьцілі вы нас гэтым апакаліптычным абразом!

а. Раман: — Сама простая лёгіка дыктуе, што вынік будзе такі, якое было прыгатаваньне. Калі хто падкладае бомбу пад дом суседа, дык няхай загадзя ўцякае з свайго дому, калі той блізка стаіць!

—Калі высокая навука нарыхтавала досыць бомбаў, каб зьнішчыць на зямлі ўсё жывое, дык трэба мець розум і адвагу — прыгледзіцца, як гэта сапраўды будзе праходзіць. А ці-ж гэта разумна — зачыняць вочы загадзя і ня думаць аб прышласьці? Ці мы будзем хаваць галаву ў пясок, як гэта робіць страўс падчас небясьпекі ў пустыні.

Рабін: — Вы выводзіце ўсё лёгічна, але па людзку; аднак ёсьць сіла вышэйшая ад людзкой лёгікі — гэта Бог! — Дык я аніяк не магу з Вамі згадзіцца, што так і будзе, як вы выснавалі сваім розумам! — (Тут рабін замахаў рукамі). — Але вы не перарывайце мне! — вы толькі разважце: Калі я маю дом і я яго збудаваў і яго даглядаю, каб ня нішчыўся, — дык ці я мог-бы пазволіць, каб хто прыйшоў са стараны і пад мой дом падкладаў агонь на маіх вачах?! Гэта-ж ясна кожнаму разумнаму чалавеку, што я не пазволю: я падыйму алярм і буду змагацца з маім ворагам... Ці не праўду я гавару?

а. Раман: — Вы гаварыце чыстую праўду.

Рабін: — Значыць, калі Бог — самы найразумнейшы — стварыў гэты наш сьвет і напусьціў на яго людзей і народы, а зямлю ўладзіў так прамудра і прыгожа, што ўсім хапіла-б хлеба і радасьці, каб толькі не грашылі і не псавалі Божай работы — дык ці-ж Бог можа пазволіць, каб нягодныя людзі — па сваей дурнаце — на злосьць адны другім — сапсавалі і зьнішчылі ўсю Божую работу? Вы-ж самі ведаеце, што Бог ёсьць і мудры, і добры і магутны: так ці не?

а. Раман: — О, так? я гэта добра ведаю і веру ў Бога і люблю Яго з цэлага сэрца.

Купец: — А і я згаджаюся з Спадаром рабінам. Ну, я маю магазын поўны тавару. Але я нікому не пазволю забіраць і выносіць без маей згоды! А Бог трымае сьвет мільёны-мільярды гадоў і ці-ж можа пазволіць, каб якія хуліганы яго зьнішчылі!.. Дык на маю думку гэтага аніяк быць ня можа! Бо як такое магло-б быць?

а. Раман: — А вы маеце ў сваім магазыне чужых працаўнікоў?

Купец: — Так, маю дзесяць чалавек.

а. Раман: — А вы пазваляеце ім рабіць у магазыне, што яны толькі хочуць?

Купец: — Як-то я мог-бы такое пазволіць? Яны тады разьнесьлі-б увесь мой тавар! Хэ-хэ! такога нельга пазваляць...

а. Раман: — Ясна! Вы ня хочаце і вы ня можаце даваць сваім працаўнікам поўнае волі і яны мусяць падлягаць вашай волі.

— Але ў Божай эканоміі дзеіцца начай: Бог дае чалавеку абсалютна поўную і вольную волю, і не перашкаджае яму аж да самае яго сьмерці. І надта рэдка Бог карае людзей на гэтым сьвеце, а ўвесь суд і расправу з людзьмі адкладае на час пасьля іх сьмерці.

Купец: — Дзіўна! А чаму гэта так?

а. Раман: — Таму, што Бог хоча, каб людзі свабодна і дабравольна Яму служылі і каб верылі ў Яго, дый мелі на Яго надзею, а нават, каб любілі Яго і ўсё гэта — бяз ніякага прымусу!

Рабін: — Так-так, гэта ўсё — сьвятая праўда!..

а. Раман: — З гэтага аднак плыве ўвесь закалот на сьвеце. А яшчэ прытым, калі людзі нарушаць Божыя законы і парадак, а гэтым прычыняюць шкоду іншым людзям і ўсяму грамадзтву, а часта і самым сабе, дык пасьля мы неразважна ўсю бяду і адказнасьць звальваем на Бога і ўносім пратэсты: «Чаму Бог дапусьціў! Чаму не пакараў злачынцаў?» . . .

*

а. Раман: — І сапраўды, нам вельмі дзіўна, што Бог — такі лібэральны! Бо мы былі-б гатовы зара пакараць нягодных людзей; а толькі для сябе самых мы больш лагодныя і паблажлівыя, — затое зара наракаем, калі лёс нас мацней дасьведчыць.

— Ці-ж ня так? запытаюся я вас, як вы часта ставіце мне цяжкія пытаньні.

Рабін: — Сапраўды, яно так! Аднак усё-ж гэтага нельга тасаваць да такой капітальнай справы, як канец сьвету. Гэтага ўжо аніяк Бог ня можа людзям дапусьціць, бо яно належыць да найбольшых Божых прэрогатываў, да якіх чалавек мяшацца ня можа і не павінен! Бо толькі Сам Творца можа свой сьвет скасаваць і ануляваць. Ці-ж не праўда, што так?

а. Раман: — Я ня цьверджу, што так і станецца, як я дапускаю. — Аднак уважайце, што самыя новыя падзеі пацьвярджаюць маю тэзу; а я казаў, што «Бог ня гвалціць людзкой вольнай волі». — Мы добра помнім, як Гітлер мільёны людзей гнаў у магілу, нават жывымі і недабітымі, як душыў газамі і паліў у печах. А Бог яму не перашкодзіў . . . Чаму?

— А Сталін мучыў людзей і цэлыя народы праз 30 гадоў свайго валадарства, а ў прапагандзе рэклямаваў усе свае злачынствы як найбольшую «свабоду» на сьвеце!

— Праўда, Бог дапусьціў, што гэтыя найгоршыя тыраны, пасьля вялікай дружбы, пачалі ваяваць з сабою і вынішчаць узаемна галоўныя сілы атэізму. — Нарэшце сам Гітлер счэз самагубствам і быў спалены: гэтак ужо на гэтым сьвеце Бог пакараў яго падобнай сьмерцяй, якую ён прычыняў нявінным ахвярам.

— А Сталін паміраў гвалтоўнай загадкавай сьмерцяй, грозячы кулакамі ўсяму сьвету. Дабіваўся славы ўсё жыццё, называючы сябе «Вялікім», але быў выкінены з маўзалеум сваімі-ж таварышамі, а ўсе назвы гарадоў і вуліцаў з ягоным імем называюцца цяпер іншымі мянюшкамі: імя Сталіна сьцёрта і забыта . . .

— Як бачым, Бог сьпіхнуў абодвых тыранаў з іх высокіх трыбунаў: замест найбольшай славы, да якой так імкнуліся, надта скора атрымалі ганебную пагарду і паніжэньне.

— Значыць, Бог, Які дае людзям вольную волю, умее нават з людзкой злосьці і непаслушэнства выявіць волю і сваё права. Уканцы Бог патрапіць прыгнуць горды людзкі карак і непаслушную галаву.

— Уся гісторыя чалавецтва — гэта ёсьць бязупынны бунт супраць волі Госпада Бога. Аднак усе такія рэвалюцыі супраць Бога канчаліся вельмі сумна для самых збунтаваных. Як і найслаўнейшы і бліскучы анёл Люцыпар стаў найгоршым і праклятым чартом.

Купец: — Значыць, і цяпер Бог панізіць тых вар'ятаў, што прабуюць згубіць увесь людзкі род атамнай бомбай, дык ня трэба лішне баяцца! Праўда?

а. Раман: — А я ўсё-ж баюся, каб не сталася такая вайна, якой абраз я прад вамі намаляваў. І Бог можа дапусьціць такі канец на грэшны сьвет і на чалавецтва!

— І нават магло-б гэта стацца бяз зьнішчэньня нашае плянэты і з захаваньнем нейкага астатку сьвету расьціннага, зьвярыннага і нават людзкога.

Рабін: — Як-жа вы гэта ўяўляеце сабе?

а. Раман: — А так: мог-бы недзе ў сьнягох і лядох Канады ці Сібіру перартрываць усю катастрофу нейкі гурток прымітыўных дзікароў, або у прасторах Вялікага акіяну на нязначным кусочку забытай тэрыторыі . . . А пасьля з такіх вытрывалых элемэнтаў могбы перарадзіцца і паўстаць новы чалавечы род. Ведама, на такі трудны працэс трэ было-б адмераць зноў некалькі дзесяткаў тысяч гадоў, пакуль яны дайшлі-б да новай цывілізацыі і культуры. — Ім трэба было-б нанава «аткрываць Амэрыку», ці наадварот — Эўропу . . .

— І спадзяюся, вы прызнаеце мне рацыю, што наш цяперашні сьвет, як кажуць, «Богу ня ўдаўся»: стаўся больш гордым, чым самы абрыдлівы д'ябал Люцыпар, які хацеў зраўнавацца з Богам! А людзкія цяпер «люцыпары» цалкам адкідаюць Бога — ці то ў бязбожнай камуне, ці ў атэізме капіталу. Значыць, людства нікчэмна заслужыла, каб Бог яго адкінуў, а вывеў новых людзей з найніжэйшых элемэнтаў . . .

Рабін: — Сапраўды, я пачаў баяцца, што вы маеце рацыю! Дык мушу добра парадзіцца з Сьвятым Пісьмом . . .

Купец. — А я мушу прызнацца (як гэта сказаць?) — аж і ня ведаю, што цяпер падумаць ! . .

Рабін: — І проста ня ведама, што з людзьмі рабіць? Калі чалавек ёсьць «абраз і Божае падабенства», дык павінен мець вольную волю. Ну, і Бог яму яе даў. Але, як дастане свабодную волю, дык зара становіцца чалавек падобны да гордага Люцыпара і да найніжэйшых зьвяроў, як воўк робіцца злым, як сабака, брэша, ці як сьвіня аб'ядаецца і хіліцца да найбольшай распусты. — Ну і як тады з людзьмі рабіць?

Купец: — Ай, колькі людзі марнуюць усялякага дабра! і ўсё праз сваю злую волю. Калі найлепш было-б кожнаму жыць па Божаму: было-б і разумна і карысна.

а. Раман: — Так! Аднак-жа Бог у сваей незразумелай для нас сыстэме, хоць — (можна сказаць) — траціць масу матар'ялу — людзкіх душаў — якія марнуюцца ў злачынстве, распусьце ці праз лёгкамыснасьць або абыякавасьць, — то ўсё-ж выяўляюцца паўсюдна душы сапраўды высокага калібру і такія вартасныя, што нават адзін чалавек можа лічыцца за тысячы і мільёны — вартасны за абыякавых і сьвяты за нягоднікаў!

— А Бог у сваей прамудрасьці патрапляе выбраць дабро, адкідаючы зло, як земляроб адбірае сабе пшаніцу, а выкідае мякіну і ўсялякую дрэнь. — Такім спосабам у багатага Гаспадара, Госпада Бога, з дастаткам напаўняецца неба самым адборным матар'ялам.

— І для такой сэлекцыі Бог мог-бы, на нашае найбольшае няшчасьце, даць і цяпер магчымасьць нягодным людзям, каб закончылі гэты нездатны, грэшны сьвет.

— А тады Бог можа выклікаць іншых людзей, ці стварыць зусім новых і даць ім шансы папрравіць людзкі род у прышласьці.

Купец: — Ну, але на такія экспэрыманты спатрэбілася-б нямала новых стагодзьдзяў!

а. Раман: — Але ці-ж Бог не мае часу?

Рабін: — У Бога «тысяча гадоў, як адзін дзень», так напісана ў Сьвятым Пісьме, у Псальмах Давіда. —

*

На гэтым абарвалася размова каталіцкага манаха з жыдоўскім рабінам і з купцом. Усе разыйшліся ў глыбокім раздуме над лёсам чалавецтва і над сваім уласным...

а. Раман вяртаўся люднай вуліцай: ля яго снаваў народ, сьпяшаючы туды-сюды, але ён іх як-бы ня бачыў, яму здаваліся як-бы цені, — так быў углыблены ў свае візіі канца сьвету! Гэты рухомы і рухавы, неспакойны горад здаваўся яму замёршым і астыгшым касьцяком, абсыпаным попелам і вугольлем.

Ды і гэты дзень адпавядаў настрою ягонай душы; быў канчатак восені, дзень насуплены, застаялы — ні ветру, ні сонца, дый аголеныя ад лісточкаў дрэвы падыймалі свае галузіны да глухога неба, просячы палёгкі і плачучы васеньнімі сьлязьмі. — Жадалі вясны, але надыходзіла суровая цяжкая зіма...

*

Манах а. Раман вяртаўся дамоў такі засмучаны, што аніякая ясьнейшая думка не магла яго пацешыць, а толькі ад пары да пары цяжка ўздыхаў, паўтараючы словы трывогі — ледзь ня роспачы: — Божа мой, што будзе з нашым збаламучаным і загрожаным чалавецтвам? І што мае спаткаць увесь наш няшчасны сьвет? Ці-ж сапраўды наляціць наглы канец? —

— Божа, будзь міласэрны мне грэшнаму і ўсяму недастойнаму людзтву! Ойча наш, Каторы ёсьць у небе, зжалься над намі! — Маці Божая, маліся за нас, бо мы твае дзеці...

---

*Юрка Віцьбіч*

# Бог і Бацькаўшчына

**1878—1968**

*У 90-я ўгодкі ад нараджэньня Андрэя Зязюлі*

*«Старонка мілая, Ты многімі забыта*
*Шмат сьпіць сыноў Тваіх адвечным сном!*
*Зямелька родная, сьлязьмі і потам зьліта,*
*Мы да жыцьця з Табой узноў уваскрасём.»*

Андрэй Зязюля

Мястэчка Абольцы на Аршаншчыне. Яно гэткае-ж маленькае, як чаротавая рэчка Абалянка, што паблізу пачынаючыся, паволі цячэ праз яго да Лучосы, каб разам зь ёю далучыцца ў Віцебску да Дзьвіны. На ўсход ад Абольцаў, у мястэчку Смалянах, захаваліся крушні велічнага замку каралевы Боны. На поўдзень ад іх, каля вёскі Дзятлава, ляжаў вялізны Рагвалодаў камень, на якім бяз малу тысяча год таму багабоязны князь Друцкі, унук Усяслава Вялікага ды стрыечны брат сьвятой Еўфрасіньні-Прадславы князёўны



*Аляксандар Астрамовіч (Андрэй Зязюля)*
*26. XI. 1878 — 17. I. 1821*

Полацкай, загадаў высячы крыж і просьбу на тагачаснай царкоўнаславянскай мове:

> *«В лето 6679 (1171) маія в 7 день доспен крст сій: Господи! помози рабу своему Василию в крещеніи именем Рогвольду Борисову».*

Тут адвечная Беларусь.

У верасьні 1939 году, у пошуках нашых старажытнасьцяў, мне пашанцавала трапіць у Абольцы. І спачатку я нават не адразу даў веры, што яны ўяўляюць зь сябе рэштку старадаўняга гораду «Обѣче», які згадвае Ўваскрасенскі летапіс і які, пад назовам «Оболца», можна ўгледзіць на мапе Рэчы Паспалітай 15-га стагодзьдзя, выдадазенай ў Амстэрдаме. Потым, ужо зьначыўшы зь цягам часу свой назоў на Абольцы, селішча гэтае таксама адбілася ў іншых гістарычных дакумантах. Менавіта тут, як сьветчыць хроніка Быхаўца, вялікі князь Літвы й кароль Польшчы Александар Ягелон прыймаў пасла Масквы. Здавалася, як на першы погляд, дык нішто цяпер ня нагадывала аб мінулым Абольцаў, але гэтак толькі здавалася.

Ідучы сьледам за сьцьверджаньнямі шматлікіх гісторыкаў, як Кіркор, Сапуноў, Турцэвіч, Турчыновіч, Бацюшкаў, Бэз-Карніловіч ды іншыя я ўжо ведаў, што ў 1387 г. кароль Ягайла пабудаваў у Абольцах першы на Беларусі касьцёл. Аднак дарэмна я шукаў які-небудзь прыпамін аб ім у самым старавечным мястэчку. Мяне нават і ня зьдзівіла, што большасьць ягоных жыхароў нічога аб ім ня чулі. Але затое адзін з абальчанаў, сівы дзед. тутэйшы стальмах Анастаз Бабурка на маё пытаньне ветліва адказаў:

— А мабыць гэта касьцёл Унебаўзяцьця Божай Маці ў Старых Абольцах? Кажуць, што калісьці ён быў у самых Абольцах, але як яны пакрысе здрабнелі, дык і апынуўся паза імі. Цяпер да яго адсюль аж вярста з гакам. Набажэнства там ужо не адпраўляецца, але тымчасам нішто ў ім не парушана. Ключ, здаецца, у старшыні сельсавету. Магчыма ён вам дазволіць агледзіць яго ўнутры. А можа ў савеце й паперы ёсьць аб ім.

Неўзабаве я падыходзіў да касьцёлу з могільнікам вакол. Нібы вартавыя атульвалі іх доўгалетнія разложыстыя ліпы. Паасобку стаяла невялічкая званіца, званы якой колькі год таму, як дазнаўся, былі здрушчаныя. У параўнаньні з барокавымі й рэнэсансавымі катэдрамі вельмі сьціпла выглядаў звонку гэты Дом Божы. Сам драўляны, ён быў абшаляваны старчма грубымі дошкамі, на якіх абы-дзе захавалася цёмнаблакітная фарба. Ягоны адзін кумпал над пазбаўленым усялякіх аздобаў фасадам, як і ганак з чатырма калісьці белымі, а цяпер шэрымі калюмнамі, скрывіліся. Струхнела крытая гонтам страха, у падмурку павыкрышваліся паасобныя цагліны, а ў некаторых вокнах буй-вецер павыбіваў сям-там балоны.

Вонкавае ўбоства занядбанага й паруганага касьцёлу падкрэсьлівалі, хоць і таксама зьняважаныя, але багатыя надмагільныя помнікі. Адны зь італійскага мармуру, другія зь фінляндзкага граніту, трэція з чыгуну вытворчасьці уральскіх гамарняў — з мэталёвымі крыжамі, вянкамі ды кветкамі. Нечыя непачэсныя рукі, відаць наўмысьля, зьнішчылі напісы на іх, пад якімі пэўне-ж спачывалі тутэйшыя абшарнікі з бліжэйшых маёнткаў. А ў самым куту могільніку прытуліўся вялікі задуменны жальнік, як на Віцебшчыне называюць з аднаго каменю нязграбна вычасаны старажытны крыж. Увесь абамшэлы, ён ад часу ды вагі ўрос у зямлю й пахіліўся на бок, той жа скрушальны час сьцёр зь яго эпіграфію і нейкім дзівам ацалелі лічбы — 1417.

Калі вялічэзны, вырабу вясковага каваля, ключ адчыніў рыплівыя дзьверы, я сьпярша разгублена спыніўся на бабінцы — унутраны выгляд будынку адпавядаў ягонаму вонкаваму. Уверсе птушкі зь ціўканьнем павылятаі праз выбітыя балоны, а ўнізе скрозьнік гойдаў пыцьвілыя пратэсы. У інвэнтарным сьпісу, знойдзеным мной у тутэйшым сельсавеце, значылася, што гэты касьцёл Унебаўзяцьця Богамаці пабудаваў у 1709 годзе сваім

коштам архідыякан Вечаркоўскі, пасьля чаго ён не аднойчы рамантаваўся. І той жа самы сьпіс сьветчыў, што цяперашні касьцёл, які ўжо сам па сабе зьяўляўся помнікам рэлігійнага старадаўняга дойлідзтва, паўстаў на месцы колішніх, якія існавалі тут з давен даўна.

Як звонку надмагільныя помнікі ўпрыгожылі сабой бедны выгляд касьцёлу, гэтак унутры вочы праз хвіліну бачылі ня толькі саматужнага вырабу звычайныя хатнія лавы-заслоны, а цудоўную ў сваім харастве статую Люрдзкай Богамаці, набытую невядомым ахвярадаўцам у Парыжы. Таксама, як статуя ня пасавалі да вакольнага прыгожыя й добрыя арганы на хорах — яны, як знайшоў у сьпісу, трапілі сюды зь Мюнхэну ў Нямеччыне, купленыя там у 1898 годзе за 1200 рублёў. І параўноўваючы помнікі, статую й арганы з агульным станам касьцёлу можна было зрабіць бясхібны выснаў — урад царскай Расеі дазволіў тут каталікам толькі рамантаваць стары касьцёл, а ня будаваць новы. А пабожна наблізіўшыся да сьвятога аўтару, над якім багаслаўляла вернікаў Адзіная для ўсіх хрысьціянаў Найсьвяцейшая Дзева Мары, я нечакана пабачыў адказ на пытаньне, якое й прывяло мяне сюды ў Абольцы.

Над прыбочнымі дзьвярыма аўтару меліся два прыгожа намаляваныя нязнаным выдатным мастаком партрэты, аздобленыя кляйнодамі й гэрбамі. На правым зь іх, паводля напісу, быў вялікі князь Літоўскі, кароль Польскі й Швэдзкі Жыгімонт Трэцці, а на левым — вялікі князь Літвы й кароль Польшчы Ўладыслаў. Яны трымалі ў сваіх руках даравальныя граматы, якімі сьветчылі, што зьяўляюцца дажывотнымі фундатарамі касьцёлу ў Абольцах у імя Ўнебаўзяцьця Богамаці. І тады я ўжо канчаткова пераканаўся, што сучасны касьцёл паўстаў на мейсцы ранейшых, атрымаўшы такім чынам іхнюю гістарычную спадчыну. А значыцца першы зь іх запраўды пабудаваў ніхто іншы, як Ягайла, што меў хрысьціянскае імя Ўладыслаў. Невядома што зруйнавала ягоны касьцёл — ці крывавыя войны, ці рэлігійнае змаганьне, ці бязьлітасны час — толькі бадай не памыліліся гісторыкі, мянуючы ў сваіх працах цяперашнюю сьвятыню ў Абольцах касьцёлам Ягайлы.

Ляжыць цяпер перада мной жменька ўжо пажоўклых ад часу фотаздымкаў, тады зробленых ды ахутаных цёплымі ўспамінамі, але не ад каралёў ідзе гэтая цяплыня. З гулам гарматным адыйшла ў мінулае векапомная й грозная Літва, а з гэтае прычыны заняпаў падбіты з двох бакоў наш беларускі народ. Колішні значны горад Аблочы ператварыўся ў невялічкае мястэчка Абольцы Магілёўскай губэрні Расейскай імпэрыі. Лёс Аблочаў, у якім ня выпадкова ён першым на Беларусі ўзьнікнуў, падзяліў і ягоны касьцёл, заняпаўшы ў сваім вонкавым і ўнутраным выглядзе. Аднак, нягледзячы на ўсе злыбяды, несьмяротны народ у сваім зацятым супраціве адвечным ворагам. І доказам таму ёсьць тое, што ўласьне ў гэтым касьцёле правіў Божую Службу ксёндз Александар Астрамовіч вядомы па ўсёй Беларусі, як Андрэй Зязюля.



*Касьцёл Унебаўзяцьця Богамаці ў Абольцах Вонкавы выгляд 1939*
(Са сбору Юркі Віцьбіча)



*Касьцёл Унебаўзяцьця Богамаці ў Абольцах унутраны выгляд 1939*
(Са сбору Юркі Віцьбіча)

Не, ня выпадкова ён сьвятарыў у гэтай за ягоныя часы, відаць, беднай і нялічнай парафіі, бо ў сваім вершы, што нагадвае прысягу свайму народу з уласьцівым яму палам агаласіў:

*«Хай срэбра, дукаты мне сыпяць пад ногі*
*І скажуць: багаты будзь, кінь род убогі,*
*Я плюну з пагардай, народу-ж і волі*
*Ня здраджу ніколі.*

*Да самага скону, усякім прымусам*
*І сіле прыгону скажу: Беларусам*
*На век астануся, сваёй уласнай волі —*
*Ня зраджу ніколі.'*

Можа менавіта тут ён стварыў першы беларускі рэлігійны гімн, што пачынаецца прачулым зваротам:

*«Божа, што калісь народы*
*на асобкі падзяліў»*

— а канчаецца сардэчным пажаданьнем —

*«Дык жыві-ж Ты і красуйся,*
*наша Маці, Беларусь.»*

Магчыма, уздымаючыся на гэтую сьціпную амбону ды зьвяртаючыся да вернікаў на роднай беларускай мове, ён тлумачыў ім пра іхнюю Бацькаўшчыну акурат тое самае, што адбілася ў ягоным вядомым патрыятычным вершы:

*«Хоць знойдзецца ў Табе выродны валакіта,*
*Каторамy Твая не да спадобы сьвіта*
*І не адзін прадасьць Цябе Іскарыёт,*
*Але Табе яшчэ ўсё-ж Маці семяніта*
*Сяляне верныя, што сеюць жыта,*
*А з іх паўстане Твой Народ.»*

Няма ведама, ці існуе цяпер у Абольцах касьцёл Унебаўзяцьця Богамаці. Можа ён падзяліў сумны лёс сьвятога Рагвалодавага камяню, падараванага аманалам улетку 1936 г. у часе пабудовы аўтамагістралі Масква—Менск. А калі нават захаваўся, чаму не даеш веры, дык перароблены пад калгасны сьвіран або пуню ці гараж, а можа пад клюб, дзе прыстасавалі пад сцэну аўтар, зьнішчыўшы ягоную статую Богамаці ды танцуюць пад гукі тых арганаў, што некалі натхнёна выслаўлялі Яе.

І наўрад ці ня толькі помнік або крыж, а нават грудок захаваўся над невядомай магілкай у Сянно, дзе перадчасна, у студзені 1921 г., яшчэ 43-гадовым, паклаўся на вечны адпачынак слынны беларускі паэта нашанівец Андрэй Зязюля — вялебны айцец Александар Астрамовіч. Дый толькі ніколі ня выкрэсьляць яго ворагі з народнай памяці. І хай гэты твор ляжа нашым агульным вянком на магілку, пад якой спачывае вялікі Беларус, што пражыў усё сваё кароткае жыцьцё пад сьвятым дэвізам: Бог і Бацькаўшчына.

---

*а. Фэлікс Ж.*

# Італія — Рым

РЫМ — ВЕЧНЫ ГОРАД. Колькі мільёнаў людзей прайшло праз яго! І колькі кніжак напісана аб ім ? !

Кожны горад мае нешта асаблівае сваё. Аднак хіба ніводзін ня мае гэтулькі асаблівасьцяў і ня робіць такога хвалюючага ўражаньня як Рым. Любіцель прыроды будзе захапляцца яго аколіцамі, Альбанскімі горамі, па якіх разьмяшчаюцца маляўнічыя замкі, ці самым палажэньнем Рыму на сямі ўзгорках, каля якіх выкручваецца рака Тыбр, як сярэбраная стужка.

Эстэт будзе цешыцца спакойным, вытанчаным рэнэсансам і жывым багатым барокам будынкаў, якія выпаўняюць цэлыя вуліцы, творачы сапраўдную мазаіку архітэктуры і цудоўную гармонію лініяў і сымэтрыю паасобных частак будынкаў або цэлых іх камплексаў.

А клясык можа даволі нацешыцца багацьцем старажытнай культуры. Увесь Рым на паверхні, а яшчэ больш пад зямлёю, зьяўляецца вялізным музэем клясычнага мастацтва. Цэлыя кварталы, асабліва ўзгоркі — Капітоль, Палятын, а пасьля Форум Романум — гэта паказальны вобраз старадаўнай культуры.

Куды толькі ня кінеш вокам, усюды пабачыш нешта із старога Рыму. Тут астаткі даўнейшага аквадукту-вадаправоду, які дзьве тысячы гадоў таму падаваў ваду ў двухмільённы горад, цягнучы яе з высокіх горных крыніцаў. Такія кавалкі вадаправоду паказваюцца між дамамі, а ўлады гораду сьцерагуць цэласьць усялякіх старавечнасьцяў.

Там-сям выскакваюць з пад зямлі слупыкалонкі паганскіх сьвятыняў: яны сваей стройнасьцяй і капітэлямі, як густоўныя кветачкі і лісткі, ці ў форме мяккай падушачкі, каб стварыць уражаньне далікатнасьці стыку архітэктанічных частак, забаўляюць вока гледача.

І дзетолькі не дзеўбане рыдлёўка, усюды напаткае нешта цікаўнае і вартаснае з перад тысячаў гадоў! Дык можна сказаць, што цяперашні Рым спачывае на старым. І ня дзіва, што ня могуць правесьці падземкі, каб не пакалечыць старога гораду.

А Рым хрысьціянскі — ня толькі цікавы, але і вельмі вартасны. Якраз тут, прынесенае апосталамі Пятром і Паўлам, хрысьціянства найглыбей укаранілася і з гэтуль разыйшлося па ўсей імпэрыі. Па тыхсамых шляхах наземных і морскіх, па якіх урадоўцы магутных цэзараў заносілі загады пакананым народам і па якіх ішлі і плылі рымскія легіёны, каб заваяваць новыя краіны, ці каб зьнішчыць збунтаваных, — дык тымі самымі шляхамі ішлі, ехалі, плылі пасланцы апостала Пятра і ягоных насьледнікаў, нясучы Добрую Навіну аб Богу Айцу — Стварыцелю і аб Богу Сыну, Збавіцелю сьвету . . .

Аднак рымскае магутнае войска не змагло пакanaць усіх народаў; а Божае Слова, пасеянае хрысьціянамі, заўладала ўсімі народамі навокал тагачаснай сталіцы сьвету, гордага Рыму.

Пасярод гораду стаіць паўразрушаны Калізэй, даўнейшы цырк, недалёка ад яго — «Циркус Максімус — Найбольшы Цырк»: у іх тысячы хрысьціянаў аддавалі жыцьцё за Хрыста — прывязаныя да слупоў, абвязаныя саломай, аблітыя смалой — «жывыя факелы», або кіданыя дзікім галодным зьвярам ці крыжаваныя.

Пры самым Форум Романум находзяцца вялізарныя муры старадаўнага Мамэртынскага астрогу, які быў перапоўнены хрысьціянамі пасьля пажару Рыму за панаваньня Нэрона. Там яны маліліся і чакалі пакутніцкай сьмерці; найчасьцей кіравалі іх у цыркі, дзе вялізныя натоўпы народу — цікавых гледачоў — аглядалі пажаданае відовішча. I цяпер паказваюць тую камэру, у якой прабывалі Пётр і Павал і — паводле традыцыі — там Павал пісаў свой ліст да вучня Цімафея, малюючы постаць добрага біскупа: «Будзь чуйны ў-ва ўсім, цярпі і гора, рабі справу эвангеліста, служэньне тваё выпаўняй. Бо мяне ўжо на жэртву прыгатавалі і час майго адыходу настаў. Змагаўся я добрай барадзьбой, бег закончыў, веру захаваў: наастатак згатовіцца мне вянок праўды, які дасьць мне Госпад, праведны Судзьдзя, у той дзень (II Цімаф. 4, 5—8).

А сьвяты Пётр, калі хрысьціяне прасілі і дамагаліся, каб уцякаў перад прасьледам, ня змог ім супрацівіцца і раніцай з грамадкай вернікаў, як уцякач, апынуўся за горадам. Аж неспадзявана Пётр убачыў Хрыста, які з крыжам на плячах кіраваўся ў Рым. Пётр упаў на калені і загаманіў: «Куды йдзеш, Госпадзе?» — «Quo vadis, Domine?» Хрыстос адказаў: «Іду ў Рым, каб яшчэ раз быць укрыжаваны!» — Прывід зьнік яму з вачэй, але Пётр рашуча завярнуў у горад. Ягоныя таварышы, якія нічога не бачылі, пазналі што Пётр спаткаў Хрыста і таксама пыталіся Пятра: «Куды ідзеш?» — «Quo vadis?» А ён паўтарыў словы Госпада: «Іду ў Рым, каб быць укрыжаваным!»

На мейсцы гэтае сустрэчы, дзе — паводле легенды — адбылося цудоўнае спатканьне, пабудаваны касьцялок і называецца «Quo vadis?» Паказваюць там нават сьлед стапы — у тым мейсцы, дзе затрымаўся Хрыстос.

Пад зямлёю ў горадзе і асабліва па берагох яго цягнуцца і кружаць у нязьлічонай колькасьці тысячы калідораў — цэлы лябірынт — у розных напрамках: гэта ведамыя катакомбы — падземныя магільнікі і хрысьціянскія сховішчы падчас прасьледу за веру — за Хрыста! Тут ёсьць і пашыраныя мейсцы, што служылі хрысьціянам для набажэнства і на сабраньні.

Ёсьць яшчэ некаторыя надпісы на мейсцах магілаў і на сьценах: з іх можам разумець, з якіх людзей складаліся хрысьціянскія групы; належылі да Царквы і багатыя і бедныя, вольныя і нявольнікі, арыстакраты і дэмакраты, а нават і з царскага дому.

А прасьлед рэлігіі трываў блізка праз 300 гадоў — да 313 году пасьля Хрыстовага Нараджэньня.

Аглядаючы старадаўныя сьвятыні і іншыя сакральныя будынкі, мы разумеем, што хрысьціянства прыняло і ўлучыла ў сябе ўсё найбольш вартаснае з паганскай культуры Рыму і Грэцыі, напаўняючы ўсё новым зьместам і ажыўляючы сваім духам. Гэтым тлумачыцца, што Бог усё людзкое шануе, бо і чалавек ёсьць Божым створэньнем. Бог толькі адкідае грэх, бо грэх супрацiўляецца Божай сьвятасьці і Божай волі.

Рым ёсьць таксама аб'ектам вельмі цікавым для аматараў мадэрнай культуры. Новыя часткі, асабліва з паўночна-заходняе стараны, маюць выгляд сапраўднага навачаснага гораду. Трэба прызнаць, што італьянцы паказваюць немалое пачуцьцё эстэтыкі і кемлівасьці, што памагло асьцерагчыся стандарту і даць гораду вялікую разнаякасьць.

А на Ватыкане высока ўзносіцца купал базылікі сьвятога Пятра, сьвятыні найбольшай у сьвеце, і красуецца сваей веліччу і прыгожасьцю ў блакіце італьянскага яснага неба. А пад царквою спачывае сам сьвяты апостал Пётр, Галава Хрыстовай Царквы. Ён і дасюль прыпамінае ўсяму стурбаванаму сьвету: «Госпадзе, да каго мы пойдзем? Ты маеш словы вечнага жыцьця. I мы паверылі і пазналі, што Ты ёсьць Хрыстос, Сын Бога жывога». (Ян 6, 68—69).

Гэтым сьвяты Пётр заклікае нас усіх да адзінства веры ў аднаго Госпада Ісуса Хрыста, а таксама да пашаны Хрыстовага Заступніка на зямлі.

### АЎДЫЕНЦЫЯ Ў ПАЎЛА VI-ГА

«Быў у Рыме і Папы ня бачыў!» — такое ёсьць прыслоўе, бо якраз з таго найбольш сьмяюцца, хто не патрапіў у Рыме пабачыць Папу. Аднак мне здарылася добрая нагода — паехаць з Рыму ў Кастэль Гандольфо (гэта летняя рэзыдэнцыя Рымскага Папы) і там далучыцца да супольнай аўдыенцыі. А людзей сабралася такая грамада, што вялізная саля не магла ўсіх зьмясьціць — з усялякіх народаў і краёў.

Прывіталі Папу бурнымі воплескамі і воклікамі: «Віва іль Папа!». Павал VI-ты быў толькі што пасьля падарожжы ў Баготу (Калюмбія) на Эўхарыстычны Кангрэс. Выглядаў апалены паўдзённым сонцам.

На самым пачатку, прывітаўшы ўсіх прысутных, зара зьвярнуўся да славацкай групы з сардэчнай прамовай і спачуцьцём — дзеля савецкай акупацыі ў іх дзяржаве. Казаў, што іх край і народ цяпер падданы цяжкой пробе і што моліцца за іх і жадае, каб найхутчэй прыйшоў дзень свабоды і каб Бог даў ім сілу вытрываць у веры ў часе гэтай цяжкой гадзіны.

Далей гаварыў Папа аб агульных справах Царквы, малюючы вобраз новых падзеяў. «Па апошнім Саборы — кажа — ў Каталіцкай Царкве бачыцца ўзможаны працэс, у якім вернікі бліжэй уваходзяць у царкоўнае жыцьцё, шукаюць новага спосабу апостальства і думаюць, як дапасаваць жыцьцё да новых вымогаў сьвету».

«Гэта ёсьць натуральны вынік Сабору і яго пасеў. Бачыцца, што людзі больш аддаюцца справам Хрыстовай Царквы і бачым большую сьмеласьць у прапановах. Узьнікнула хрысьціянскае жыцьцё і там, дзе яго перш ня было. — Усё гэта вельмі радаснае».

Адначасна ў гэтым працэсе, як і ўсюды, дзе праяўляецца дзейнасьць чалавека, паказваюцца напрамкі адбежныя. Назваў іх Папа «ручайкамі, што аддаляюцца ад галоўнай ракі». Не хапае гэтым людзям даверу да Царквы і да яе ўлады, а жадаюць дапасавацца да цяперашніх патрэбаў на сваю руку. Многа яны турбуюцца, але без карысьці, як кажа лаціскае прыслоўе, што гэта ёсьць «вялікія крокі па-за дарогай».

Гэтыя людзі ўважаюць, што Каталіцкая Царква замкнулася ў гэтто, ня йдзе за сучасным сьветам. А тымчасам яны самі — праз сваю самаволю — вылучаюць сябе ад Царквы, а прылучаюцца да ворагаў яе. Так, замест памагаць, уносяць замяшаньне і шкоду . . .

Праўда, Папа не назваў нікога, але гэта ведама, што прычыняюць Царкве нямала прыкрасьці некаторыя каталікі ў Галляндыі, у Бэльгіі ці ў іншых краінах, якія тлумачаць па свойму (больш лібэральна) праўды веры, або самавольна зьмяняюць Літургію.

На канцы прамовы Папа заклікаў духавенства і вернікаў да адзінства, да ўзаемнай супрацы і да супрацы з Ім, Галоўным Пастырам, які з Божай волі адказвае за ўсю Царкву. — Толькі такім чынам Царква зможа адрадзіцца і працаваць карысна дзеля ўсяго сьвету.

Прамовіў таксама Папа яшчэ да дзяцей, пытаўся, ці будуць ахвотна вучыцца катэхізму і слухаць бацькоў і настаўнікаў? Яны жыва адказвалі: «Сі! — Так!» і пляскалі ў далонькі.

Пасьля яшчэ прамаўлялі прадстаўнікі асобных нацыянальных групаў. — францускай, ангельскай, нямецкай, гішпанскай і інш. — Амаль усім Павал VI адказваў у іхняй мове.

Аўдыенцыя закончылася Папскім Багаславенствам.

---

## *З царкоўнага жыцьця*

# Пасланьне Папы Паўла УІ на алімпіяду ў Мэксіцы

ВАТЫКАН: Што мог і павінен быў сказаць Папа да спратсмэнаў? Казаў, што спаборніцтва ёсьць дапушчальнай і прыгожай праявай маладога жыцьця, каб толькі не дапускаць заўзятасьці, гневу, зайздрасьці.

Назваў спартсмэнаў «апосталамі міру і супакою» на сьвеце. Казаў: «Занясіце кожны да сваей бацькаўшчыны, што супакой ёсьць магчымы і дасягальны».

«Зьбіраючыся пад знакам міру, згоды, прыязьні, і ўзаемнае пашаны, няхай спартсмэны нясуць службу супакою; замест поля вайны зьбі-

раюцца на стадыёнах; замест ненавісьці праводзяць любоў бліжняга».

24. X. Павал VI кожную сераду на агульных аўдыецыях мае спэцыяльныя праграмовыя прамовы. У апошніх тыднях найбольшы націск рабіў на патрэбу паслушэнства, паводле слоў Хрыста да апосталаў: «Хто вас слухае, Мяне слухае».

Пасьля вайны ўзбудзіўся ў сьвеце дух нястрыманай свабоды — аж да дзікой самаволі, якая выходзіць з усялякіх належных і разумных граніц.

А з другога боку ўлады і паліцыя тасуюць нярэдка спосабы тэрроpу і гвалту, што прычыняецца да праліцьця крыві і больш распальвае людзей, асабліва моладзь.

Можна і трэба дамагацца сваіх правоў, але захаваць супакой і пашану ўлады і грамадзян. «Паслушэнства і мір» — гэта быў дэвіз Папы Яна XXIII, якога памяць шануе ўсё чалавецтва.

Паведамляюць, што Павал VI працуе над пасланьнем да «людзей добрай волі» аб паслушэнстве і згодзе на ўсім сьвеце.

ВАТЫКАН: Газэта «Оссэрваторэ Романо» асьцерагае каталікоў, каб не разумелі заклік да «дыялёгу» з атэістамі, як заклік да ўгоды з камунай, асабліва да палітычнай супрацы. Каталіцкая Царква імкнецца перад усім да таго, каб злагодзіць змаганьне рэлігійнае, а ў жыцьці грамадзкім супрацоўнічаць на карысьць народу, асабліва бедных, хворых і апушчаных. І нават узаемнае пазнаньне прычыняецца да зьмякчэньня адносінаў і людзкога сужыцьця: у такім дыялёгу можна нямала трудных пытаньняў выясьніць. Аднак нельга гэтакага новага спосабу жыцьця ўважаць за арэну чыста палітычнае талеранцыі і спачуваньня атэізму ці камунізму, чаго падступна дабіваюцца бязбожнікі, каб захапіць уладу і пасьля ўціскаць рэлігію.

*

Вялікая ўрачыстасьць адбылася ў базыліцы Сьв: Пятра ў Рыме: Папа прызнаў, пасьля кананічнага працэсу, 24 мучанікаў карэйскіх, якія аддалі жыцьцё за веру ў Карэі ў 1866 годзе: 17 з іх былі хрысьціяне карэйцы і 7 — місіянэры французы. Значыць, адбылася іх бэатыфікацыя. Царква назвала іх «багаслаўлёнымі».

*

ФРАНЦЫЯ: Карыстаючы з аказіі разьвітага турызму, летам і восеньню адбылося ў Францыі некалька паважных зьездаў царкоўна-грамадзкіх — ня толькі ўнутрана французскіх, але і агульных. Характэрна, што ажывілася духоўнае сужыцьцё з немцамі, а зьезды і сабраньні адбываліся чародна ў абодвых краях.

*

ГАЛЯНДЫЯ: Пасьля вайны горад Амстэрдам пераджываў у царкоўных адносінах вялікія труднасьці: было ў цэнтры гораду 12 сьвятыняў і 25 капліцаў. У нармальных варунках гэтага для вернікаў хапала. Але ў перабудове гораду шмат каталікоў перанеслася з цэнтру на прадмесьці, дык сьвятыні аказаліся апарожненыя, а ў новых кварталах сьвятыняў не хапала і людзі і духавенства не маглі справіцца з новымі цяжкасьцямі.

Дый цяпер наагул гарады праходзяць рэарганізацыю: у цэнтры пераносяцца ўрадовыя ўстановы, а жыхары шукаюць вальнейшага прастору і лепшага паветра за горадам. —

Дык вось у Амстэрдаме спэцыяльная камісія дала такі праект: 1) Прадаць і збурыць 7 сьвятыняў (касьцёлаў), а ўсё царкоўнае жыцьцё згрупаваць у 5-ці і ў 25 капліцах. 2) Усю вонкаву працу, арганізацыю і эканомію перадаць людзям сьвецкім — нанятым і платным, каб духавенства магло аддацца толькі духоўнаму пастырству. 3) Перафармаваць душпастырства: прыблізіцца да тых, што жывуць за горадам, заняцца больш моладзьдзю, дзецьмі, старцамі і хворымі, турыстамі — сваімі і чужаземнымі.

Гэтыя праекты павінны прайсьці праз крытыку і тады будуць пацьверджаныя духоўнаю уладай.

*

ВАТЫКАН: Літургічная Камісія прыняла новы абрад хросту дзяцей — просты, кароткі і лёгкі ў выкананьні: у ім большая роля даецца хросным (куму і куме), стасоўная да іхняга абавязку ў прышласьці.

Таксама Камісія падыймае працу, каб упарадкаваць абрады Літургіі, асабліва лекцыяў чытаных падчас сьвятой службы, адносна брэвіяра, пахаваньня памёршых і інш.

*

МЭКСЫКА: Вялікі неспакой выкліканы на ўнівэрсытэце: як і шмат дзе ў іншых краях, студэнты дамагаюцца большай свабоды і справядлівасьці з боку дырэктуры і прафэсуры. Ладзяць маніфэстацыі і пратэсты. Урад пасылае паліцыю і ня йдзе на ніякія ўступкі, а студэнтаў уважае за бальшавікоў. Але катал. біскупы выступілі ў абарону моладзі і дамагаюцца зьмякчэньня рэжыму, бо суровасьць і зьверствы паліцыі могуць сапраўды выклікаць бунты і хаос.

*

АФРЫКА-СУДАН: Судан — новая рэспубліка на поўдзень ад Егіпту. Паўночная частка Судану — гэта музульманы (пераважна), але ёсьць значны процант хрысьціян, якія церпяць немалы прасьлед рэлігіі: урад не пазваляе будаваць сьвятыняў і робіць розныя труднасьці духавен-

ству і вернікам. Ставяць фальшывы прэтэкст, што край цалкам музульманскі.

А на паўдні Судану, дзе магамэтан невялікая частка, там іншым рэлігіям, асабліва хрысьціянам, не даецца магчымасьць маліцца: замыкаюць сьвятыні, выганяюць сьвятароў і прычыняюць іншыя цяжкія крыўды. А бараніць пакрыўджаных няма каму!

*

АНГЛІЯ: «АНГЛІКАНСКАЯ» Царква — гэтак называецца царква, якая адыйшла ад Каталіцкае, калі ў 1534 г. Кароль Ангельскі Гэнрык VIII абвесьціў сябе галавой царквы замест Рымскага Папы. Прычына была такая: Гэнрых VIII дамагаўся ад папы Клімэнта VII разводу, але папа ня даў на гэта згоды.

Новая рэлігія была ўведзена гвалтам і доўга трывалым прасьледам каталіцтва. Цяпер, хоць і далей лічыцца кароль ці каралева галавой Англіканскае Царквы, але фактычна ўладу «галавы» выконвае парлямант. Царква гэтая лічыць у суме 47 мільёнаў вернікаў, але ў яе ўваходзіць 19 розных цэркваў, якія прызнаюць правадырства біскупа гор. Кантэрбэры, але толькі ганаровае.

Першае мейсца між англіканскімі цэрквамі займае «Высокая» царква, якой біскупам ёсьць д-р Рамсэй: ён носіць тытул Прымаса. Аднак і ў самой «Высокай» ёсьць нямала самаволі: адны сьвятары служаць Літургію, а другія ня прызнаюць гэтага. Асабліва біскупы выяўляюць сваю самастойнасьць. У апошнім часе ўсе англіканскія цэрквы адчуваюць вялікую цягу да аб'еднаньня і ўжо «Высокая» царква амаль дагаварылася з мэтадыстамі злучыцца, захаваўшы свае дагматы і аўтаномію.

*

ІТАЛІЯ — ПАДРЭ ПІО. Гэты айцец Пій быў ведамы ўсяму сьвету. Нар. у 1887 і памёр 23-га верасьня 1968. Быў манахам капуцынам у паўдзённай Італіі. Пасьвячаны на сьвятара, маючы 23 гады. У 1915 мабілізаваны на вайну, але на фронт ня быў пасланы дзеля здароўя. Вельмі пабожны і з гэтым былі злучаны розная асаблівыя праявы, што людзі ім зацікавіліся; а ў часе, калі ў яго аткрыліся Хрыстовыя р а н ы на руках, нагах і ў баку, дык людзі пачалі называць яго сьвятым. Аднак Падрэ Піо, колькі мог, стараўся ўтайваць у сабе ўсё цудоўнае.

Дактары прабавалі лячыць раны, але зусім ім гэта ня ўдавалася: раны былі заўсёды сьвежыя і крывавілі. Падрэ насіў бандажы і рукавічкі, але раны заўсёды вельмі яму балелі і ён дужа цярпеў. Стараўся спаўняць сьвятарскія абавязкі і наагул быў цалкам паслушны царкоўнай дырэктыве.

Людзі, як бывае звычайна, цікавыя: адны з пабожнасьці, а іншыя з простага зацікаўленьня вельмі дакучалі яму. Якая хадзіла аб ім слава, можна меркаваць з таго, што ў год прыбывала народу, каб пабачыць, пагаманіць з «сьвятым» да 2-х мільёнаў! Штодня прыбывала да 600 лістоў і да 70 тэлеграмаў — то з просьбамі аб малітвы, то з падзякай за духоўную ўспамогу.

Хоць цяжка было дайсьці да Падрэ, усё-ж стараліся надта многія адбыць у яго споведзь. Такім спосабам уплыў ягоны на духовае адраджэньне народу быў вельмі вялікі.

У зносінах з людзьмі быў просты, дабрадушны і вясёлы, часам нават войстры да дакучлівых паклоннікаў, а такіх між народам не бракуе.

Людзі прыпісвалі яму розныя цуды — за жыцьця і асабліва пасьля сьмерці. Царква гэтага дасюль ня прызнала і ня сьпяшаецца з гэтым, хоць з усіх бакоў плывуць просьбы і націск. Падаюцца факты цудоўнага аздараўленьня. Гэтых Царква таксама да пары ня рэеструе, хоць многа было выдатных.

Можна спадзявацца, што ўсё-ж Падрэ Піо будзе прызнаны сьвятым!

---

## *З беларускага жыцьця*

### КАНЦЭРТ У СТЫВЭНЭДЖ

У пятніцу 1-га лістапада г. г. вучні Школы сьв. Кірыла ладзілі канцэрт беларускай песьні і музыкі ў горадзе Стывэнэдж, трыццаць міляў на поўнач ад Лёндану. Канцэрт, ладжаны на запросіны Міжнароднага Клюбу ў гэтым горадзе, вызначаўся багатай праграмай, на якую складаліся беларускія рэлігійныя і народныя песьні, народная музыка ў выкананьні аркестры, жалеек і акардыону, а таксама вершы Баршчэўскага, Купалы, Колася, Багдановіча, Бядулі, Танка, Вялюгіна і Сіпакова ў перакладзе розных ангельскіх паэтаў. Камэнтатар ў сваіх заўвагах зьвяртаў асаблівую ўвагу на гістарычнае разьвіцьцё беларускай культуры. Усе прысутныя атрымалі таксама друкаваныя праграмы з тлумачэньнямі беларускіх песьняў, весткамі аб беларускіх паэтах і кароткай інфармацыяй аб Беларусі.

На канцэрце было шмат гасьцей, як ангельцаў так і чужынцаў, якія жывуць у Стывэнэдж і ваколіцы. Падзяка за ініцыятыву ў арганізацыі

вечару належыцца беларускаму сябру Міжнароднага Клюбу ў Стывэнэдж, сп. Янку Пекарскаму.

## СВЯТАЯ ЛІТУРГІЯ Ў ЛЁНДАНЕ

У сераду 13-га лістапада — дзень Сьвятога Яна Залатавуснага, — а. А. Надсон адправіў сьв. Літургію ў царкве сьв. Пятра і Эдварда ў Лёндане для сяброў Таварыства сьв. Яна Залатавуснага. Сьпяваў хор выбраных вучняў Школы сьв. Кірыла пад кіраўніцтвам сп. Г. Пікарды.

Таварыства сьв. Яна Залатавуснага ёсьць ангельская арганізацыя, якая мае за мэту знаёміць англамоўны сьвет з Ўсходняйхрысьціянскімі цэрквамі. Таварыства выдае часапіс «Хрызостом». Яго Дастойнасьць Уладыка Часлаў Сіповіч зьяўляецца ганаровым віцэ-прэзыдэнтам Таварыства (прэзыдэнтам ёсьць Кардынал Гінан), а а. Надсон сябрам камітэту.

THE JOURNAL OF BYELORUSSIAN STUDIES, Vol. I, No. 2, London, 1966.

Журнал беларускіх студыяў, т. I, № 2, Лёндан 1966.

Урэшце выйшаў з друку доўгачаканы другі нумар Журналу Беларускіх Студыяў, выдаваны Ангельска-Беларускім Таварыствам.

Журнал, як і ягоны папярэдні нумар, вызначаецца багатым зьместам. Там памешчаны наступныя артыкулы: Нарыс беларускай міталёгіі архім. Льва Гарошкі; Заходнія ўплывы ў беларускай літаратуры XV—XVI стаг. а. А. Надсона; Пачаткі паліфоніі ў беларускім царкоўным сьпеве часу адраджэньня Гаўрылы Піхуры; Погляды на беларускую мову ў XIX-тым стаг. перад Карскім — Арнольда Макмільліна; і наканец Гістарычны канспэкт крыніцаў беларускага права Станіслава Савіцкага. Акрамя гэтага журнал мае багаты аддзел рэцэнзіяў і хронікі. У пачатку памешчаная рэпрадукцыя гэрбу Тэадарыта Сапегі і няведамая да гэтага часу эпіграма на гэты гэрб, узятыя з Евангельля выданага Праваслаўным Брацтвам у Вільні ў 1623 г.

Шкода, што вялікая колькасьць друкарскіх памылак (больш чым ў папярэднім нумары) псуе агульна добрае ўражаньне. Няведама, чаму таксама разьмер нумару крыху розьніцца ад папярэднага.

Акрамя друкарскіх ёсьць таксама і іншыя памылкі. Так напр. на бач. 67 гаворыцца, што Перац і Каратаеў выдалі каталёгі беларускіх вершаў XVI і XVII стаг. Вось-жа ані адзін, ані другі нічога падобнага не зрабілі. Перац выдаў тэксты шматлікіх раньніх беларускіх і ўкраінскіх вершаў, а Каратаеў склаў каталёг славянскіх друкаваных кніг з XVI—XVII стаг. Таксама сьв. Язафат Кунцэвіч быў манахам у манастыры сьв. Тройцы ў Вільні, а не ў Сьвятадухаўскім, як сказана ў артыкуле Г. Піхуры ў (б. 96).

Гэтыя заўвагі не памяншаюць вартасьці гэтага выданьня — першага часапісу ў ангельскай мове прысьвечанага выключна пытаньням беларусаведы. Выдаўцоў трэба павіншаваць за праробленую вялікую працу і пажадаць далейшых посьпехаў.

Адзін нумар часапісу каштуе 10 шылінгаў. Можна яго выпісваць беспасрэдна з рэдакцыі:

The Editor, Journal of Byelorussian Studies,
c/o The Anglo-Byelorussian Society,
230 The Strand, London, W.C. 2.

або цераз «Божым Шляхам».

*

Ceslao Sipovic, IL DOTTORE FRANCESKO SKARYNA A LA SUA OPERA BIBLICA, «Unitas» (Edizione Italiana), Anno XXIII, Roma, Aprile-Giugno 1968, pp. 127—138.

Артыкул Дастойнага Уладыкі Часлава Сіповіча аб Францішку Скарыне, які паявіўся ў італьянскім выданьні часапісу «Унітас», зьяўляецца фактычна ягоным дакладам на гэтую тэму, прачытаным ім раней у гэтым годзе ў Усходнім Інстытуце ў Рыме. Як даклад, ён ёсьць вельмі зьмястоўны і цікавы. Як артыкул, ён выйграўбы шмат, калі б аўтар даў больш дакладную бібліяграфію, а ня толькі пералік прозьвішчаў тых вучоных, якія пісалі аб Скарыне. Тым ня меньш, як першая спроба сур'ёзнай інфармацыі аб нашым першадрукару ў італьянскай мове, артыкул ёсьць цэнны і карысны. Было-б пажаданым, каб ён ня быў апошнім.

## УЧОРА Я ПАЙШОЎ НА КАНЦЭРТ...

Учора, маючы вольны час, я пайшоў на канцэрт. Музыка барокавага часу мне вельмі падабаецца, і якраз учора францускія музыканты ігралі кампазіцыі свайго валікага майстра Франсуа Купэрэ. Я добрачасна паехаў — не хацеў спазьніцца. Канцэртавы будынак прыгожа выглядае над ракой Тамізай. Я меў яшчэ гадзіну часу перад пачаткам канцэрту. Пагода была надзвычайна прыемная, і я пайшоў на кароткую прагулку. Недалёка ад канцэртовага будынку ёсьць чыгунычная станцыя «Чарінг Крос» на другім беразе ракі. А ў вулічцы пры станцыі я пачуў музыку іншага гатунку... Ці-ж гэта ня былі цымбалы? Даходжу да групы людзей, якая была наўкол старэнькага самотнага музыканта. Ён іграў-іграў сапраўды на цымбалах!..

Забываючыся на хвілінку, дзе я, падыходжу да старэнькага, і спытаўся па-беларуску: «Адкуль вы, з якой краіны?» Але старэнькі ня чуў мяне — ён іграў далей розныя мелёдыі. Яшчэ

раз я спытаўся па-беларуску і па-ангелыску, хто ён такі, скуль ён мае цымбалы, і дзе вучыўся так прыгожа іграць.

Відаць, што старэнькі меў свае таямніцы, і не хацеў аб сабе гаварыць — ён проста адказаў мне па-ангельску — «Вы беларус? Я буду іграць нешта спэцыяльнае для вас!» Вот, я ледзь мог паверыць сваім вушам! Ці я ня чую нашую «Лявоніху»? На хвіліначку я зусім разгубіўся — дзе-ж я ёсьць? У туманным Лёндане пры Тамізе, ці над Нёманам?...

Я пайшоў на канцэрт, але слухаючы музыку восемдзесятгадовага, дзядзькі, я меў гэтага старэнькага цымбаліста ўвесь час на думцы, і ў гэтую хвілінку я чуўся ў Лёндане як на Беларусі!

*а. Р. Тамушанскі*

Лёндан, 30. 10. 1968.

---

# Віктар Жаўнярові́ч

Паходзіць Віктар Жаўнярові́ч з Браслаўскага Наддзьвіньня. Сярэднюю асьвету здабыў ён у Друйскай гімназіі. Малярства вучыўся ў Вільні, дзе ў даваенныя гады працы ягоныя паказваюцца ўжо на выстаўках Таварыства Незалежных Мастакоў. Пасьля вайны Жаўнярові́ч асядае ў Парыжы. Там нясупынна працуе далей у галіне малярства. Працы ягоныя выстаўляюцца ў Бовэ Руэн, Мант, Ліль, ды колькі разоў у Вэрсальскім Салёне. На выстаўцы згуртаваньня мастакоў Palette Francaise ў Тукэ Віктару Жаўнярові́чу прызнаецца адмысловае адзначэньне за цэласьць малярскае творчасьці. Француская крытыка адцемлівае высокія мастацкія дасягненьні ды «багатыя магчымасьці пэндзля». Пераважаюць у творчасьці пэйзажы. Краявіды Наддзьвіньня глыбока й назаўсёды запалі ў памяці мастака й на чужыне ён адчувае нястрымную патрэбу адбіць бачанае й перажытае ў юнацтве хараство. Вось абразы роднае зямлі — яе краса й душа — выяўленыя яскрава, шматхварбна, із захапленьнем ды разам беспасярэдня й шчыра, і становяць найбольш каштоўны мастацкі здабытак багатага малярскага таленту Віктара Жаўнярові́ча. Творы мастака адзначаюцца й высокімі кампазыцыйнымі якасьцямі ды размавітасьцяй спосабаў мастацкага вырашэньня, і традыцыйнымі, і навачаснымі спосабамі дасягае ён роўна дасканалае выявы сваей мастацкай задумы.



*

АБВЕСТКА

*Ведамы беларускі мастак-пэйзажыст ВІКТАР ЖАЎНЯРОВІЧ сёлета ўдзельнічае ў групавых выставах выяўленчага мастацтва ў 107-ым Вэрсальскім Салёне ад 26. — X. да 10. — XI, ў «Зімовым Салёне сучаснага мастацтва ў Парыжу ад 16. — XI. да 1. — XII. і ў парыскай выставе «Рытм і Гармонія» ад 29. — X. да 9. — XI.*

Адрас: Mr. Victor Zolnierovič, 54 rue du 18 June, Sagny, Seine Ojse, France



ТРЫ БАБКІ — THREE SHOCKS — 1961

## З лістоў у рэдакцыю

Дарагі Айцец Рэдактар!

У сваіх лістох да Вас я пісаў аб сваім намеры, калі дазволіць Бог, напісаць нарыс, прысьвечаны 90-м угодкам ад нараджэньня слаўнага Андрэя Зязюлі, што прыпадае на 26 дзень сёляташняга лістапада. Вось адначасна й дасылаю ды прапаную Вашай ветлівай увазе адмысловы нарыс «Бог і Бацькаўшчына», дадаўшы да яго фотаздымкі.

Пра Андрэя Зязюлю не аднойчы ўжо пісалася на чужыне. Мне, прынамсі, вядома наступнае:

а. Я. Гэрмановіч — Мае прыяцелі — «Божым Шляхам», № 89.

Алесь Крыжаніч — уступны артыкул да «Божа, што калісь народы» — «Зьвіняць званы сьвятой Сафіі», № 6.

Я. Ф. — Вялікі беларускі паэт Андрэй Зязюля — «Моладзь», № 7.

Х. М-а — Замест вянка на магілу Андрэя Зязюлі «Божым Шляхам», № 42.

У 30-я ўгодкі сьмерці Андрэя Зязюлі — «Зьніч», № 12—13.

Спадзяюся, што ў гэтым сваім нарысе я па свойму ўшанаваў памяць а. Александра Астрамовіча, спалучыўшы ягонае добрае ймя з гістарычным і старажытным касьцёлам, у якім ён некаторы час сьвятарыў.

1. Вонкавы выгляд касьцёлу.

2. Унутраны выгляд касьцёлу, на якім адбіліся статуя Люрдзкай Богамаці, партрэт караля Жыгімонта Трэццяга над дзьвярыма ў закрыстыю, амбона.

Мяне здаўна хвалюе сьветлая постаць Андрэя Зязюлі — сьвятое памяці вялебнага айца Александра Астрамовіча. Дарэчы, белай, недасьледванай плямай у біяграфіі Андрэя Зязюлі застаюцца прычыны ягонае передчаснае сьмерці. Ад хваробы? А можа да гэтага спрычынілася ГПУ? А магчыма пашкадаваў Госпад Бог яго паклікаўшы да Сябе, бо такім чынам пазьбегнуў жахлівага лёсу ўсіх духаўнікоў у страшэнныя 30-ыя гады.

Надысь атрымаў з Нью Ёрку фотастат артыкулу В. Шатава «Один из пятнадцати» з № 7 часапісу «Неман» за 1968 г. Твор гэты прысьвечаны гораду Сянно на Віцебшчыне і ў ім аўтар абураецца з прычыны разбураньня дзьвюх тутэйшых сьвятыняў:

Кацярынінскае праваслаўнае катэдры, падарва-



В. Жаўняровіч:
МАРОЗНАЯ НОЧ —
FROSTY NIGHT —
1947

нае ў 1936 г. і Францішканскага касьцёлу, падарванага ў 1964 г.

Калі ў Вас ёсьць магчымасьць, дык раю пазнаёміцца з гэтым артыкулам, да якога прыкладзеныя фотаздымкі са зьнішчаных сьвятыняў. Акурат у гэтым самым касьцеле ў канцы свайго кароткага жыцьця правіў Божую Службу а. Александар Астрамовіч.

УВАГА РЭДАКЦЫІ: Да ўспамінаў аб а. Ал. Астрамовічу прылучаю яшчэ наступнае: Непаводзіны ў ягоным жыцьці, што так позна ўступіў у духоўную сэмінарыю, былі разнаякія — і тое, што ня быў прыняты ў Вільні, а праз гэта падпаў пад заклік на ваенную службу (1899—1903), — і тое, што мусіў зарабляць на жыцьцё і на прыватныя студыі, каб здаць экзамен у сэмінарыю.

У няведамым часе Астрамовіч перахварэў на воспу ў цяжкой форме, бо помню сьляды гэтае хваробы на яго твары.

Да поўнай характарыстыкі яго трэба занатаваць і тое, што меў вельмі прыгожы почырк, таму ў войску быў узяты на пісара ў канцылярыі роты. І нейкі час працаваў арганістым у каталіцкай парахвіі, а пасля ваеннай службы-ў валаснoй (гмінңай) канцылярыі.

*а. Я. Гэрмановіч*

*

ЧЫКАГО: Ёсьць у Амэрыцы, ня ўсім беларусам ведамы, каталіцкі сьвятар марыянін Міхал УРБАНОВІЧ, наш беларус. Гэта вельмі мілы-сымпатычны і гаваркі ксяндзок! Дасюль бываў ён на розных парахвіях і марыянскіх манастырох па ўсей Паўночнай Амэрыцы і найчасьцей недалёка Чыкага, дзе заўсёды можна было яго спаткаць на нашых зборках, як рэлігійных, так і культурна-грамадзкіх. Аб такіх зборках звычайна зьмяшчаў пасьля весткі ў іншамоўнай прэсе. І матар'яльна ўмеў памагчы беларускаму каталіцкаму выдавецтву.

Ён ужо здаўна дружыў з ведамымі нашымі дзеячамі, якія ўжо адыйшлі ў вечнасьць, як праф. а. Я. Рэшэць, Варонка, Лобач, Будзька, Чарапук, Змагар, Дзямідаў.

А беларусы з парахвіі Хрыста-Спаса асабліва блізка яго пазналі, як заслужанага Дабрадзея!

Цяпер а. Міхал прабывае ў кляштары летувіскіх марыянаў ля Чыкага: на жаль, ягонае здароўе не пазваляе яму свабодна рухацца. — Дык вось 29 верасьня, калі (пав. лацінскага календара) выпадаюць яго імяніны, нашая група парахвіянаў пасьля набажэнства паехалі — з айцамі Тарасэвічамі — у клаштар павіншаваць і наведаць Дарагога Айца. Віншавалі там і другога Імянінніка, які якраз з намі прыехаў, Міхала Махнача.

З вялікай прыемнасьцяй мы знайшлі прыгожую мясьцінку ў кляштарным садзе, расставілі сталы і зэдлікі. А нашыя гаспадынькі дабылі прывезеную пасудзіну і неадлучную ежу — прысмакі, а мужчыны далучылі сваё, што мелі важнае...

Значыць, усё было гатова! — Тады запрасілі слаўнага Імянінніка а. Міхала Урбановіча і вось пачаліся віншаваньні-пажаданьні, прамовы, пачатыя доктарам Рамуком.

Здаволены ўсім а. Міхал у сваей прамове паінфармаваў нас аб тым, з якімі беларусамі ён у Амэрыцы знаўся і як іх міла ўспамінае.

Былі пры нас і іншыя марыяны з гэтага кляштару. Асабліва адзін з іх з праняцьцем успомніў ведамага а. Архімандрыта Андрэя Цікоту, які бываў у Чыкага ня раз і ў малодшых сваіх гадах і стаўшы Генэралам Закону Марыянаў (1933—39).

Ведама, а. А. Цікота памёр як няшчасны вязень савецкага лягеру ў Сібіру ў 1952 годзе. — Дай, Божа, Яму неба! Гэта быў адзін з выдатнейшых беларускіх дзеячоў.

Наагул спатканьне з а. Урбановічам прайшло і прыемна і карысна: не абышлося і бяз песьняў, а сьмеху і вясёласьці зусім не бракавала! — аж дзіваваліся амэрыканскія птушкі!

Усе раз'яжджаліся з тым праканаңьнем, што а. М. Урбановіч пачуўся з намі здаволены і адмаладжаны.

*Ян Асімовіч*

## ПАВАЖАНЫ АЙЦЕЦ РЭДАКТАР!

АМЭРЫКА. 28-га верасьня 1968.

Ня ўсе так прыймаюць да сэрца, але я цяжка перажываю, калі згіне асоба, якая тварыла толькі дабро. А калі быў забіты др. Марцін Лютэр Кінг, я адчуў вялікі боль, бо і мы калісьці тое-ж мелі, хоць ня былі чорнымі: нас прасьледвалі затое, што мы былі і н ш а й нацыі.

Помню, як судзілі ў Польшчы Браніслава Тарашкевіча і далі яму даўгалетні тэрмін вязьніцы. Яму пазволілі сказаць апошняе слова, што было пасьля надрукавана ў «Беларускай Крыніцы».

Ён казаў: — Польскі ўрад прызнае каталіцкую рэлігію. А я ваш брат па рэлігіі; а вы мяне судзіце за тое, што я нічога ад вас ня ўзяў, а толькі дамагаюся с в а й г о. Калі-б вы далі нам вольнасьць, дык здабылі-б сабе прыяцеляў, а так вы робіце нас ворагамі — толькі затое, што мы дамагаемся, каб у нашым краю былі школы ў нашай мове, каб мы маглі выдаваць свае часапісы і каб на ўрадах была таксама нашая мова. — Затое я сяджу на лаве падсудных. —

Судзілі там разам з Тарашкевічам Рак-Міхайлоўскага, Мятлу, Валошына і іншых «грамадоўцаў» за тое, што былі іншай нацыі. І вось яны, ня ведаючы горшага, пайшлі на абмен у Савецкі Саюз за нейкіх польскіх буржуяў — пайшлі дабрахоць, аднак там Саветы засудзілі іх-жа за беларускі нацыяналізм, разагналі іх па турмах і лягерах і ўсіх памарнавалі!

І др. Кінг — чалавек высокай культуры, навукі і глыбокай веры — бачыў жахлівую крыўду свайго народу і дамагаўся раўнапраўя — бяз зброі і згодна з канстытуцыяй, — дык яго забілі! (400 гадоў таму продкаў гэтых чорных белыя выкрадалі і хапалі гвалтам з Афрыкі дый прадавалі ў Амэрыку фармарам у нявольніцтва на цяжкія, катаржныя работы!).

Але ці-ж цяпер белыя тое разумеюць? — Як адна суседка, літоўка, на мяне узбурылася за абарону нэграў, дык ужо са мной не гаворыць і пагражае, што (мне на злосьць!) прадасьць свой дом тым са-

мым нэграм, бо тут белыя цяпер ад нэграў уцякаюць...

А іншыя пляскалі ў далоні, як быў забіты Рабэрт Кенэдзі і гразілі, што і Эдвард Кенэдзі будзе забіты, калі асьмеліцца паставіць сябе кандыдатам у прэзыдэнты!...

І яшчэ адно: Кардынал Кушынг, ведамы ў Амэрыцы дабрадзей, які памагае бедным ня толькі ў сваім Бастоне, але па ўсім сьвеце — і белым і чорным — бяз розьніцы, — дык атрымлівае пагрозы праз тэлефон і ў лістох, — паграЖаюць забойствам!...

Паліцыя хацела паставіць ахову, але ён адказаў:
— Мне ні ахова, ні абарона не патрэбна: калі хто пачуецца лепш, мяне забіўшы, няхай гэта зробіць. Нічога дрэннага я нікому не зрабіў, а калі Бог дазволіць, дык няхай станецца».

✳

21-га жніўня я прачытаў у газэце, што Саюз заняў Чэха-Славацыю. Я не магу апісаць, што тады адчуваў — проста, хацелася плакаць! А другія сьмяяліся. Адзін мне сказаў: «Няхай там б'юцца! будзе лепш у нас. Будзем прадаваць ім зброю і будзем мець больш працы...

А другі стары эмігрант з Летувы вельмі шырока ўсьміхаўся і казаў: «Што ты цяпер думаеш за тваіх прыяцеляў, рускіх?»

Кажу яму: «Як ты называеш іх маімі прыяцелямі, калі я ад іх гэтулькі цярпеў, цягаючыся па сьвеце — бяз працы, бяз грошаў і не магу вярнуцца ў сваю бацькаўшчыну?... Але, каб ваш сьмех не абярнуўся ў плач!?...

✳

Ад 14-га ліпня я працую па 12 гадзін у дзень, ня выключаючы нядзелі! (Значыцца, дзеля заработку...). Трэба было-б апісаць спатканьне з Біскупам Чаславам Сіповічам, але гэта пазьней! І гэты ліст напісаў часткова ў працы, а часткова дома — На гэтым закончу. Ваш Н-скі.

✳

31 кастрычніка 1968 г.
Вельміпаважаны а. Рэдактар!

У часопісе «Божым Шляхам» № 3 (108) за травень-чэрвень 1968 г. у некралёзе «Памёр ген. Францішак Кушаль», пададзена што Фр. Кушаль цэлы час аставаўся ў польскім войску паручнікам, што не адпавядае сапраўднасьці.

Фр. Кушаль служыў афіцэрам у 66 пяхотным палку ў горадзе Хэлмно на Памор'і й быў ротным камандзірам 2-ой роты, другога батальёну, станкавых кулямётаў у чыне паручніка да 1930 году. Улетку гэтага году быў менаваны капітанам і заставаўся ў гэтым чыне да канца йснаваньня польскае дзяржавы.

У 1930—1931 г.г. я адбываў вайсковую павіннасьць у другім батальёне 66 пях. палку у аддзеле сувязі й добра ведаў сьв. пам. Фр. Кушаля. Сапраўды кап. Кушаль быў здольным і дысцыплінаваным кадравым афіцэрам.

Падаю гэтае спраставаньне да асабістага Вашага ведама як рэдактара часопісу «Божым Шляхам».

З пашанаю — *М. С.*

ДАРАГІ ОЙЧА РЭДАКТАР!

Даўно даўным як я пісаў да Вас, хоць ужо ад даўжэйшага часу адчуваю патрэбу перад Вамі прабачыцца: плады ад «Божым Шляхам' зьбіраю, але ня прычыняўся да яго ўтрыманьня, як кажуць, «ні пяром, ні тапаром».

Дык вось, каб хоць крыху аблягчыць сумленьне, пасылаю Вам маленькі вершык, як доўг супрацоўніцтва. А як матар'яльную кантрыбуцыю пераказваю ДМ 20 (марак) Вашаму прадстаўніку Пралату Ул. Салаую ў Шонгау.

З беларускага жыцьця ў Нямеччыне: няшмат нас тут ёсьць і тыя расцярушаны. Зьбіраемся толькі прынагодна — дый нагоды бываюць сумныя, калі Усемагутны пакліча каго ў вечнасьць.

Найвялікшым асяродзьдзем ёсьць Мюнхэн і там беларусы зьбіраюцца ці то на сьвяткаваньне 25-га Сакавіка, ці то Слуцкіх Паўстанцаў, ці жаніцьба, хрэсьбіны або памінкі, ці хто бывае праездам...

А ў Б. я — сам адзін, калі ня лічыць маіх дачушак і жонкі: гэта ёсьць мае адзіныя субяседнікі, з якімі маю нагоду пагаманіць па беларуску. Асабліва з дачушкамі — гэта прыемная нагода вечарам і раніцай па беларуску маліцца. А калі ідзём на пагулянку па лугох і нівах, дык пяём на тры галасы ўсе нашыя песенкі: «Люблю наш край», «Расцьвіталі ў жыце васілёчкі» і г. д. — аж немцы затрымліваюцца дый слухаюць, як нешта нябывалае, ня чуванае...

✳

КАНГРЭС: «ЦАРКВА Ў БЯДЗЕ»

Ад 31-га ліпеня да 4-га жніўня г.г. у Königstein/Ts. — (Нямеччына) — адбыўся 18-ы Кангрэс — «Царква ў бядзе», у якім узялі ўдзел 27 народаў паняволеных камунай, ды шмат прадстаўнікоў вольных народаў.

Мэтай Кангрэсу былі, як заўсёды, супольныя малітвы за прасьледаваную Царкву ў паняволеных камунай краінах, ды супольныя нарады, як памагчы церпячай Царкве і вернікам і як зьвярнуць увагу вольнага сьвету на згвалчанае права чалавека ў гэтых краінах?

Ня гледзячы на расцярушанасьць беларусаў, на Кангрэс сабралася немалая іх група на чале з Біскупам Менскім і Магілёўскім Балеславам Сьлёсканам, з а. Ул. Салаўём.

Кангрэс закончыўся саборнай Багаслужбай, якую адправіў румынскі Біскуп Крыстэа ў саслужэньні Пралата Ул. Салаўя і украінскіх айцоў.

У супольных малітвах за кожны народ прадстаўнікі кожнага адмаўлялі «Ойча Наш...» у роднай мове. У хвіліну, калі прыйшла чарга да беларусаў, з грамады тысячы народу паважна ўздымаўся голас у неба па беларуску, просячы Усемагутнага Бога, каб даў палёгку церпячай нашай Царкве і народу.

*Ч. К.*

# БАЙКІ

## СЬВІНЬНЯ — ДОБРАЯ СУСЕДКА

*Сьвіньня ляжала*
*Дый стагнала,*
*Як-бы зьбіралася радзіць.*

*Яе авечка дай — спытала:*
*— Суседка, што табе баліць? —*

*Сьвіньня казала:*
*— Цяжка жыць!*
*Усё мне трэба перарыць —*
*І сьметнік, двор і пад платамі, —*
*Дык аж пацею я часамі!*

*— Ня тое вы, авечкі дый каровы, —*
*Ваш стол — гатовы:*
*Вы — сытыя травою.*
*А што чужое, —*
*Для вас яно — сьвятое!*

*— А нам, сьвіньням, трэ лепш старацца,*
*Каб аж да кораня дабрацца!*
*— А сад чужы — вузейшы —*
*Мне стаў мілейшы,*
*Як двор мой найшырэйшы!*

*Авечка кажа: — Працы — досыць,*
*А хто ў чужы гарод вас просіць? —*

*— Хто просіць, га ? —*
*Сьвіньня зарагатала:*
*— Ці-ж я сама таго ня знала-б,*
*Што лета ўжо падходзе? —*
*Пара палоць ў чужым гародзе! —*

*

*Павінен сьвет так жыць па сьвінську,*
*Як у Маскве і ў Мінску —*
*Ў братэрскім духу;*
*А хто ня слухае — па вуху!*

## САБАЧАЯ МОВА

*Даўно было — гісторыя старая.*
*А можа хто ня знае?*

*Запанавалі цюцькі ў лесе, —*
*Дык у агульным інтарэсе —*
*На зьезьдзе кажуць: — Нам здаецца,*
*Што трудна ў лесе зразумецца,*
*Бо той мычыць,*
*А той пішчыць ...*

*— Пачнём брахаць сабачай мовай —*
*Культурнай, ганаровай!*
*Давай зьвяры суцэльнай бандай*
*І пад сабачаю камандай —*
*Хто з радасьці, а хто з бяды —*
*Брахаць і выць на ўсе лады!*

*Хто трэзвы, хто ў пахмельлі,*
*На паляваньні, на вясельлі*
*Брахалі — аж пацелі, —*
*Аж падурнелі!*

*Хто не брахаў, сабакі-камандзеры*
*Лупілі па каўнеры:*
*Закон Высокай Тройкі*
*Рашучы быў і бойкі. —*

*Паўстаў кірмаш смаргонскі,*
*Гармідар бабілёнскі —*
*Ажно лясная ўся гармонія*
*Зыйшла на какафонію! —*

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

## ЧАМУ ЧЭХА-СЛАВАКІ МАЎЧАЦЬ?

Кузнецов: — Ты, Дубчэк, чаму маўчыш? Пакуль нас ня было, ты гаманіў часта і шмат.

Дубчэк: — Цяпер гамоняць танкі і зьвініць аружжа, дык мяне ніхто не чуе.

Кузьнецов: — Танкі стаяць, а аружжа ня дзеіць...

Дубчэк: — Што-ж? На мяне досыць маленькай кулькі, каб я змоўк навекі...

Кузьнецов: — Ну, да! Ну — ну... дда!..

## ПЯЦІГОДКА:

БРЭЖНЁЎ: — Эх, брат Касыгін! Аб чым ты так зажурыўся?

КАСЫГІН: — Думаю: Хрушчоў выкінуў Сталіна мёртвага, а мы выкінулі Хрушчова жывога... Але што з намі будзе?

Брэжнёў: — Ну, брат! Нам мусіць прыдзецца самым уцякаць? —

Касыгін: — Калі так, дык давай уложым плян пяцілеткі!...

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

(Сцэна на сабраньні беларусаў у Амэрыцы)

*1-ы Чытач:*
*— Я чытаю ня ўпустую*
*І адразу доўг плачу я:*
*У жыцьцё іду з размахам,*
*Бо чытаю «Божым Шляхам»!*

*1-ы:*
*— Хто чытае, а не плаціць,*
*Сябе гэтым не збагаціць,*
*А прытым і гонар траціць!*

*1-ы:*
*— Хто чытае, але плаціць,*
*Хоць адзін даляр затраціць,*
*На мільён душу збагаціць!*

*2-і Чытач:*
*— Я-ж чытаю, не плаціўшы, —*
*Так прывык я, адкуль быўшы:*
*«Божым Шляхам» сам прыходзіць,*
*А ці-ж гэта каму шкодзіць?*

*2-і:*
*— Кажаш — «гонар»? — вось дык штука!*
*Гэта — трудная навука:*
*Я-ж плачу, як ёсьць прынука...*

*2-і:*
*— Мая, значыць, біта карта! —*
*Адкладаць тады-ж не варта:*
*Доўг аддам, бо няма жартаў!!!*

(Тут 2-і Чытач дастае грошы, а прысутныя б'юць брава).

---

## ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.